7 чэрвеня 2019 | № 21 (632)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Цяньаньмэнь праз 30 гадоў
Стар. 8











# Адбываецца разбурэнне інтэлектуальнага падмурку нацыі



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У новым навучальным годзе праграмы па прадметах для 9-х класаў будуць абноўленыя і спрошчаныя. Аднак школьная праграма і так ужо спрошчаная да немагчымасці, перакананая настаўніца.**




Як сцвярджаюць у Нацыянальным інстытуце адукацыі, праграму «спрасцілі і канкрэтызавалі». Так, частка найбольш складанага матэрыялу перанесеная ў 10 і 11 класы. Сярод іншага, напрыклад, вывучэнне «Мёртвых душаў» па рускай літаратуры перанеслі з 9 у 10 клас. У беларускай літаратуры скарацілі змест такіх тэмаў, як «Літаратура Сярэднявечча», «Літаратура эпохі Адраджэння»; выключаныя асобныя пытанні тэорыі літаратуры (паняцці аб літаратурным працэсе, мастацкіх кірунках і плынях). Ва ўсіх праграмах скарочаны пералік абавязковых для засваення паняццяў, а частка матэрыялу і ўвогуле будзе вывучацца «на ўзроўні фарміравання ўяўленняў».

«Новы Час» папрасіў настаўніцу, пісьменніцу і даследчыцу літаратуры Ганну Севярынец патлумачыць, што гэта значыць і да чаго можа прывесці.

— Любы прадмет павінен вывучацца сістэмна. Бо мы не проста ўкладаем у дзяцей нейкія веды, даем інфармацыю. На сённяшні дзень каштоўнасці ў гэтым няшмат, таму што ёсць інтэрнэт, ёсць адкрытыя лекцыі, якія чытаюць выдатныя педагогі, ёсць «Арзамас». І сэнс выкладання любога прадмета ў тым, што мы даем яго сістэмна. Мы даем дзецям магчымасць зразумець вертыкальныя і гарызантальныя сувязі, якія існуюць у любой маштабнай з'яве: у літаратуры, мастацтве, фізіцы, хіміі. Вынікам навучання павінна быць уяўленне чалавека пра гэты вучэбны прадмет як пра сістэму. Каб вучань, напрыклад, калі адкрывае праграму ЦТ і не памятае нейкіх звестак, але, разумеючы структурныя сувязі, мог бы аднавіць адказ на пытанне. Каб ён не проста валодаў эмпірыкай, а разумеў логіку развіцця. Гэта галоўнае, чаму мы павінны навучыць, — уяўленню аб сістэмнасці сусвету.

Апошнім часам гэтае сістэмнае ўяўленне разбураецца метадычна. Калі прыводзіць прыклады, то некалькі гадоў таму з рускай мовы выкінулі разрады займеннікаў, таму што, нібыта, іх цяжка вучыць. Іх, канешне, цяжка вучыць. Але пасля гэтага дзеці перасталі разумець, што словы «каждый», «самый», «всякий», «другой» — гэта займеннікі, і сталі пазначаць іх як прыметнікі. Потым выкінулі аднасастаўныя сказы. Але калі ты не разумееш, што сказы могуць быць аднасастаўнымі, ты потым не можаш разбіраць складаназлучаныя і складаназалежныя сказы.

Літаратуру выкладалі праз тэорыю сістэм: што такое рамантызм, рэалізм, як гэтыя літаратурныя плыні змяняюць адна адну. І атрымліваецца, што ты літаратуру разумееш як арганізм, які мае сваё развіццё, у якім змест залежаў ад пануючай на той момант мастацкай сістэмы. Тады па-іншаму пачынаеш глядзець на тэкст, разумееш, што гэта комплекс сувязяў — і асабістых з боку пісьменніка, і знешніх, і гэтак далей. І зараз гэтую тэорыю прыбіраюць. І мы ўжо не зможам сістэмна ўявіць развіццё літаратуры. Ну і ў дадатак перакідваюць кавалак з XX стагоддзя пасярод XIX, потым вяртаюць XIX, і атрымліваецца проста набор не звязаных адно з адным ведаў. Напрыклад, Чычыкаў напрыканцы 9 класа лагічна завяршае лінейку Чацкі — Анегін — Пячорын — Чычыкаў. Ад рамантычнага бунтара Чацкага праз Анегіна, які ўвесь у спліне, праз цыніка Пячорына даходзіць да Чычыкава, які гандлюе мёртвымі душамі. І гэта была сістэма. А зараз — чорт ведае што.

***— Навошта разбураюць гэтую сістэму?***

— Прасцей думаць пра тое, што існуе нейкі шэраг некампетэнтных загадаў, якія аддаюць некампетэнтныя людзі, што сыходзяць не з адукацыйных мэтаў і задачаў. Складаней думаць, што гэта робіцца спецыяльна дзеля таго, каб цалкам разбурыць гуманітарыстыку і ў школьным, і ў вышэйшым навучанні — бо ў кіраўніцтва БДУ ёсць планы аб'яднаць журфак, філфак і гістфак. Бо, што б там ні казалі, гуманітарыстыка рухае свет. Яна ўплывае на развіццё мозгу і крытычнага мыслення і ў айцішнікаў, і ў матэматыкаў, і ва ўсіх астатніх. Гуманітарыстыка дае нам інтэлектуальна развівацца, фармулюе метадалогію абсалютна для ўсіх навук. Разбураючы гуманітарыстыку, яны разбураюць інтэлектуальны падмурак нацыі.

***— Можа, сапраўды, у сучасным свеце аб'ём інфармацыі ўсё большае, і дзецям складана яго засвоіць?***

— Школьная праграма ўжо спрошчаная да немагчымасці, яна ўжо разлічаная на нейкіх дурняў. Прыстасаваныя для інтэлектуальнай працы дзеці здольныя вывучыць школьную праграму за 5 гадоў, а не за 11. Калі толькі па-іншаму размеркаваць урокі. Напрыклад, гісторыю XIX стагоддзя праходзяць у 8 класе, а літаратуру XIX стагоддзя — у 9. Ну гэта ж маразм! А калі сумяшчаеш гэтыя два прадметы, то ўдвая павялічваецца эфектыўнасць авалодвання ведамі.

Таму я не ведаю, што яшчэ можна спрашчаць у школьнай праграме — хіба што калі кацiцца да ўзроўню нацыстаў: каб толькі лічылі, разумелі дарожныя знакі і маглі прачытаць напрамак да канцлагеру.

***— Ці раяцца з настаўнікамі пры ўнясенні зменаў у школьную праграму?***

— Так. Я бачыла гэтыя змены зімой. Увесь гэты год мне — не ведаю, з якіх прычын, — дасылалі ўсе новыя распрацоўкі: і падручнікі, і праграмы. Ветліва пыталіся, ці магу я паглядзець. Я з вялікім задавальненнем адводзіла час, пісала працяглы каментараў. І калі я пабачыла гэтую праграму, нават не магла падумаць, што гэта асэнсавана. Я выразшала, што гэта памылка, і паведаміла пра яе. Але там няма такой манеры — адказваць на каментары.

# Незалежнасць не валялася…

Павел КІРЫЛАЎ

**У Беларусі — новы ідэалагічны віток на ўмацаванне культу асобы. Афіцыёзная прапаганда цешыць Аляксандра Лукашэнку тым, што стала з пранікнёнай сур'ёзнасцю адлічваць незалежнасць нашай краіны з таго часу, як ён стаў кіраўніком. Тобок, з 1994 года.**

Такая ідэалагічная фальсіфікацыя найноўшай гісторыі Беларусі мацуе пазіцыі кіраўніка краіны ці толькі размывае супольна-каштоўнасны грунт незалежнасці? Заўважым: гэтыя прапагандысцкія крутельствы адбываюцца ў варунках, калі вядуцца сакрэтныя перамовы з Масквой пра так званую «паглыбленую інтэграцыю».

Галоўны рупар прапаганды Белтэлерадыёкампанія паведаміла днямі пра «цыкл кароткаметражных ролікаў, прысвечаных 25-годдзю незалежнасці Рэспублікі Беларусь». Анансуецца, што «аўтары паглядзяць на чвэрцьвекавую гісторыю станаўлення незалежнай дзяржавы вачамі маладых людзей, якія нарадзіліся ў 1994 годзе. Гэты год — юбілейны для нашай краіны. Роўна 25 гадоў таму Беларусь выбрала шлях незалежнага развіцця». Што праўда, праз нейкі час прэс-служба БТ крыху скарэктавала прынагоднасць цыклу — ён стаў прысвечаны «25-годдзю Канстытуцыі і інстытута прэзідэнцтва нашай краіны». Але пасыл пра 25-гадовы тэрмін незалежнасці застаўся без зменаў. Нізку міні-фільмаў скончаць паказваць «да галоўнага дзяржаўнага свята нашай краіны — Дня Незалежнасці — 3 ліпеня».

Падобны праект запусціла раней газета адміністрацыі кіраўніка дзяржавы «СБ–Беларусь сегодня». Хаця там усё-такі пазначылі, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі была прынятая 27 ліпеня 1990 года, а канстытуцыйную сілу яна набыла 25 жніўня 1991 года. Але таксама напісала, увага: «Казаць пра ўзнікненне дзяржаўнасці ў тыя гады можа досыць умоўна». «Фарміраванне рэальнай», паводле «СБ–Беларусь сегодня», пачалося ў 1994 годзе.

Асаблівa шкада маладыя пакаленні беларусаў, галовы якіх тлумяць гармідарам з датамі незалежнасці. Гістарычна-фактaлагічныя даты незалежнасці прапагандысты нівелююць да непаўнавартаснай падзеі, а, безумоўна, вельмі важны палітычны эпізод абрання першага прэзідэнта раздзьмуваюць да эпахальнага адліку рэчаіснаснай незалежнасці. І тут жа — Дзень Незалежнасці 3 ліпеня, які адзначаецца ў дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў у далёкім 1944 годзе. Акурат Аляксандр Лукашэнка ў свой час ініцыяваў, каб галоўнае свята перанесці з 27 ліпеня на 3 ліпеня. Гэтак хуткім часам новым Днём незалежнасці зробяць дату другога туру прэзідэнцкіх выбараў — 1994?

Французскі кароль Людовік XIV казаў: «Дзяржава — гэта я!». Ідэолагі і прапагандысты сучаснай Беларусі, дагаджаючы Лукашэнку, перафразуюць гэтае выслоўе на «Незалежнасць — гэта ён!». Разлік хіба такі: адзначаць 25-годдзе прэзідэнцтва адной асобы — гэта значыць, дадаткова ўзбухторваць электаральныя эмоцыі кшталту: «Як надакучыў ужо!» Таму было вырашана апгрэйдзіць вобраз Лукашэнкі да статусу «бацькі незалежнасці», каштоўнасць якой укаранілася ў свядомасці пераважнай большасці грамадзян.

Лукашэнка, згадваючы 1990-я, неяк сказаў, што ўлада «валялася пад нагамі» — і ён папросту яе падняў. Але ж незалежнасць не валялася! І не звалілася на нас! Не дасталася нам на халяву, як часам можна пачуць. Гэта справядлівы пафас: яна заваяваная калі не намі, дык продкамі, крывёй і потам.

Незалежнасць — не дасягненне Лукашэнкі, гэта якраз Лукашэнка — прадукт незалежнасці, пра якасць і, асабліва, пра тэрмін прыдатнасці якога цяпер можна разважаць шмат.

Паслядоўнасць жа ў яго дзеяннях ёсць: у свой час была замешчаная сімволіка фактaлагічна-гістарычнай незалежнасці (герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг, пад якім Лукашэнка прымаў прысягу), цяпер здзяйсняецца больш маштабнае замяшчэнне — эпахальных падзеяў з адпаведнымі акцэнтамі-ўстаноўкамі. Як у Оруэлаўскіх палітычна-сатырычных творах. Але ж як бел-чырвона-белы сцяг нікуды не падзеўся, так і цэлыя гады, атрыбутам якіх ён быў, з памяці і свядомасці не сцерці.

Чым бы аўтарытарны кіраўнік ні цешыўся, абы ўдавалася манеўраваць пабач з імперыяй і не здаваць незалежнасць. З аднаго боку, дэ-юрэ яна на месцы, з другога — дэ-факта маем русіфікацыю, палітычна-ваенны саюз АДКБ, эканамічную шворку… Дый нават неўзабаве на парадзе 3 ліпеня па цэнтры Мінска прамаршыруюць расійскія салдаты, а з Крамлём ужо некалькі месяцаў вядуцца нейкія сакрэтныя перамовы пра паглыбленую інтэграцыю.

І ў тым ліку (ці перадусім?) вось з такой рэпутацыяй Аляксандр Лукашэнка ідзе цяпер да чаговай 5-годкі кіравання. Або на другую 25-годку?

# «Нас усіх пaратруцяць, як пацукоў, не дапамогуць ніякія лекі!»

Зінаіда ЦІМОШАК

**На пачатку лета ў сельгаспрадпрыемствах косяць траву, падкормліваюць пасевы, апырскваюць расліны пестыцыдамі. А што рабіць сялянам, чые сядзібы прымыкаюць да палёў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў? Як зменшыць наступствы гвалтоўнай хімізацыі сваіх палеткаў і не патруціцца самім?**

— Трэба рашуча змагацца за здароўе сваіх сямей і карыстацца пунктам 50 СанПін №149, згодна з якім пры наземным апырскванні пестыцыдамі, аграхімікатамі і мінеральнымі ўгнаеннямі санітарныя разрывы ад населеных пунктаў і месцаў адпачынку насельніцтва павінны складаць не менш за 50 метраў, — гаворыць Ніна Анатольеўна Смірнова з вёскі Праснакі Капыльскага раёна. — Інакш нас усіх пaратруцяць, як пацукоў, не дапамогуць ніякія лекі.

Ніна Анатольеўна інвалід II групы, жыве з сям'ёй дачкі, якая мае чатырох маленькіх дзяцей і цяжарная пятым. Невялікі «прэзідэнцкі» дамок месціцца на ўскрайку вёскі. Праз дарогу знаходзіцца поле сельскагаспадарчага прадпрыемства, на якім у гэтым годзе пасеяныя цукровыя буракі.

— 9 траўня каля 10 гадзін раніцы пачулі гул трактароў, і праз адчыненыя вокны ў хаце раптам павеяла невыносным смуродам, — распавядае жанчына. — Убачыла, што блізка да хаты ездзяць трактары і паліваюць буракі пестыцыдамі. Патэлефанавала дырэктару ААТ «Праснакі» Уладзіміру Платуну. Ён параіў зачыніць вокны.

Ніна Смірнова патэлефанавала ў Капыльскі РАУС і паведаміла, што сям'ю труцяць. Дзяжурны міліцыянер на заяву адрэагаваў хутка — прыехаў разам з прадстаўніком інспекцыі па справах непаўналетніх. Яны апыталі па гэтай справе членаў сям'і, удакладнілі інфармацыю па абставінах хімізацыі ў дырэктара Уладзіміра Платуна. Матэрыялы па выніках праверкі РАУС былі перададзеныя ў Капыльскі тэрытарыяльны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Праз дзён 10 прыехалі памочнік доктара-гігіеніста Антаніна Гардзіевіч і мясцовы аграном сельскагаспадарчага прадпрыемства Анастасія Кеўра — для праверкі справы.

Па словах Ніны Анатольеўны, да гэтага часу ніхто з прадпрыемства — ні кіраўнік, ні аграном — нават не папрасілі прабачэння.

— Таму я запатрабавала давесці справу да канца — пакараць вінаватых у парушэнні заканадаўства. У сваю чаргу, я запытала ў памочніка доктара, чаму цэнтр гігіены і эпідэміялогіі не даводзіць інфармацыю да дырэктараў прадпрыемстваў, не сочыць за выкананнем нормаў санітарнага заканадаўства і абыякава ставіцца да атручвання насельніцтва. У адказ пачула толькі маўчанне, — гаворыць Ніна Анатольеўна.

Праз некаторы час сям'я атрымала адказ з Капыльскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. У ім гаворыцца аб прыцягненні агранома Анастасіі Кеўра да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафа. Кіраўніку ААТ «Праснакі» Платуну Уладзіміру накіравана інфармацыйнае пісьмо аб неабходнасці захоўвання санітарных нормаў пры апрацоўцы пасеваў пестыцыдамі і недапушчэнні парушэнняў пры работах, якія пагражаюць здароўю насельніцтва.

На межах участка, апрацаванага гербіцыдамі, згодна з заканадаўствам, не былі выстаўленыя адзіныя знакі бяспекі з надпісам «Апрацавана пестыцыдамі (сродкамі абароны раслін), аграхімікатамі і мінеральнымі ўгнаеннямі», а перад выкананнем работ да насельніцтва не была даведзена інфармацыя аб хімізацыі поля.

# Амаль палова ІП думаюць згарнуць бізнес

**У Беларусі індывідуальныя прадпрымальнікі працягваюць губляць пазіцыі на рынку. У студзені-красавіку гэтага года на ІП і фізічных асоб прыходзілася 9,6% ад усяго рознічнага тавараабароту за гэты перыяд, а год таму — 11,3%. Гэта вынікае з дадзеных Белстата.**

Удзельная вага індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асобаў у рознічным тавараабароце ў студзені-красавіку скарацілася ва ўсіх рэгіёнах да аналагічнага перыяду 2018-га.

Лідзіруюць па прысутнасці ІП і фізасобаў у рознічным тавараабароце Гродзенская, Брэсцкая і Віцебская вобласці — 13,4% і па 13,1% адпаведна. Да прыкладу, у Брэсцкай і Віцебскай абласцях гэты паказчык год таму быў 15,7%.

У аўтсайдарах — Мінск і Мінская вобласць, дзе на ІП прыходзіцца 6,8% і 7,6% рынка адпаведна.

Тым часам у Беларусі працягвае скарачацца колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў, якія займаюцца рознічным гандлем. Паводле дадзеных Міністэрства па падатках і зборах, на 1 красавіка гэтага года іх было 66 325, а годам раней — на 707 больш.

Нагадаем, амаль палова індывідуальных прадпрымальнікаў — 46% — плануюць закрыць свой бізнес на працягу бліжэйшага часу. Прычым 20% — на працягу года. Больш за ўсё жадаючых «сысці» ў Мінску і Мінскай вобласці — 51%. Такія дадзеныя былі атрыманы падчас даследавання «Лепшы рэгіён Беларусі для вядзення бізнесу індывідуальнымі прадпрымальнікамі», яго праводзіла грамадскае аб'яднанне «Перспектыва» ў 2018 годзе.

Пра тое, што доля ІП у рознічным тавараабароце зніжаецца, яшчэ ў 2016 годзе на адным з форумаў прадпрымальнікаў казаў Пётр Арушаньянц, які на той момант займаў пасаду дырэктара дэпартамента па прадпрымальніцтве Мінэканомікі. «У 2014 годзе было 19%, у 2015-м — каля 18%», — адзначаў прадстаўнік Мінэканомікі.

Пасля нявыхаду многіх ІП на працу ў пачатку 2016-га доля ІП у рознічным тавараабароце ўпала да 9% (дадзеныя на студзень таго года), але пазней у красавіку-сакавіку гэты паказчык вярнуўся на адзнаку ў 13–14%.

Нагадаем, раней індывідуальныя прадпрымальнікі, якія прадаюць тавары лёгкай прамысловасці, напісалі зварот у Адміністрацыю прэзідэнта, у якім прасілі «спыніць масавыя праверкі Дзяржстандарту». Пазней у ведамстве растлумачылі, чаму прыходзяць да ІП з праверкамі і маніторынгамі.

У пачатку гэтага года індывідуальныя прадпрымальнікі сабралі амаль 7 тысяч подпісаў пад зваротам да Лукашэнкі і перадалі іх кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Качанавай. Прадпрымальнікі прасілі сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, каб абмеркаваць з ім праблемы малога бізнесу.

**Паводле TUT.BY, пераклад НЧ**

# Барацьба з экстрэмізмам як нагода задушыць свабоду слова



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Падчас міжнароднай канферэнцыі ў Мінску праваабаронцы заклікалі ўлады Беларусі прывесці заканадаўства аб экстрэмізме да сусветных стандартаў.**




Праваабаронцы ўсё часцей сутыкаюцца з выпадкамі неправамернага прымянення антыэкстрэмісцкага заканадаўства. Сітуацыя выклікае сур'ёзную занепакоенасць і стала нагодай для правядзення ў Мінску міжнароднай канферэнцыі «Супрацьдзеянне экстрэмізму і правы чалавека».

На канферэнцыі падчас трох панельных дыскусіяў эксперты абмяркоўвалі пытанні міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека ў кантэксце барацьбы з экстрэмізмам, змаганне з ім у краінах СНД (і ў прыватнасці ў Беларусі). Таксама падчас форуму прадставілі даклад, падрыхтаваны беларускай кааліцыяй праваабаронцаў (ПЦ «Вясна», Беларускі Хельсінкскі камітэт, Беларуская асацыяцыя журналістаў, «Human Constanta»), дзе прааналізаваныя кейсы, з якімі яны сутыкнуліся, і дзеючае беларускае заканадаўства.

### Паміж экстрэмізмам і тэрарызмам

Юрыст праваабарончага цэнтру «Вясна» Павел Сапелка адзначае, што тэма барацьбы з экстрэмізмам увайшла ў нашу практыку не так даўно, але цяпер набывае масавы характар. І адна з найбольш распаўсюджаных у Беларусі практык — прызнанне пэўных матэрыялаў экстрэмісцкімі.

Эксперт зазначыў, што ў нас ёсць законы аб супрацьдзеянні тэрарызму і экстрэмізму. Здавалася б, наяўнасць двух гэтых актаў магла б вырашыць праблему. Але сталася так, што гэтыя паняцці пераблыталіся і сталі ледзьве не ўзаемазамяшчальнымі. І, фактычна, барацьба з экстрэмізмам пераходзіць у барацьбу з інфармацыйным экстрэмізмам.

У Беларусі заканадаўца дасягнуў дасканаласці ў тым, каб пераўтварыць інфармацыйны матэрыял у экстрэмісцкі. Рашэнні аб уключэнні ці неўключэнні таго ці іншага матэрыялу ў Рэспубліканскі пералік экстрэмісцкіх матэрыялаў вызначае спецыяльная камісія. Амаль палову яе складаюць прадстаўнікі дзяржорганаў. Варта дадаць, што звестак аб дзейнасці камісіі няма, як і аб яе дакладным складзе, а праца яе не асвятляецца ў СМІ — усё адбываецца пад завесай таямніцы.

Пасля працы камісіі адбываецца судовы парадак прызнання матэрыялаў экстрэмісцкімі, пры гэтым перагляд прынятых рашэнняў запусціць немагчыма.

### Штраф за «расійскіх камуністаў» і закрыццё газеты за выяву Мухамеда

Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец распавёў пра прымяненне ў Беларусі артыкула 130 Крымінальнага кодэксу (распальванне варажнечы і нянавісці). Найбольш гучныя за апошні час кейсы па гэтым артыкуле — так званая «справа рэгнумаўцаў», а таксама справа блогера Эдуарда Пальчыса. Але першая

**Няма адзінага вызначэння паняццяў міжнароднага тэрарызму і ваяўнічага экстрэмізму. Гэта дае магчымасць многім дзяржавам усё падводзіць пад гэтыя паняцці**

гучная справа за распальванне варажнечы была завершаная яшчэ ў 1995 годзе. Тады да адказнасці прыцягнулі галоўнага рэдактара баранавіцкай газеты «Баранавіцкае слова» Блінкоўскага. У двух нумарах газеты былі апублікаваныя матэрыялы з выказваннямі, якія прызналі распальваючымі нацыянальную варажнечу. Гэта былі выказванні кшталту «вайну 1939–1945 гадоў развязалі нямецкія фашысты і расійскія камуністы» і падобныя. Галоўнага рэдактара за гэтыя публікацыі прысудзілі да штрафу каля 2000 долараў.

У 2006–2007 гадах адбыўся разгляд справы намесніка рэдактара газеты «Згода» Аляксандра Сдвіжкова, што пацягнула закрыццё выдання. Яна вядомая таксама як «справа дацкіх карыкатур». Журналісты адной дацкай газеты апублікавалі карыкатуры з выявай прарока Мухамеда. Гэта выклікала скандал у мусульманскім свеце. У «Згодзе» выйшаў артыкул пра скандал, для ілюстрацыі якога была размешчана адна з карыкатур. Наклад газеты быў арыштаваны, у рэдакцыі прайшоў ператрус, была распачатая крымінальная справа — і газету ў выніку закрылі.

Паводле дзіўнага збегу абставін, выданне тады падтрымлівала аднаго з апазіцыйных кандыдатаў на выбарах у прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Паколькі галоўны рэдактар «Згоды», пазней заснавальнік і рэдактар «Новага Часу» Аляксей Кароль на момант выпуску газеты адсутнічаў, да адказнасці прыцягнулі яго намесніка Аляксандра Сдвіжкова, якога асудзілі да трох гадоў пазбаўлення волі. Ён адседзеў тры месяцы, потым суд перагледзеў рашэнне — і тэрмін быў зменены на фактычна адбыты.

Таксама за распальванне варажнечы ўзбуджалі крымінальную справу супраць Зянона Пазьняка за адну з яго кніг, але паколькі заснавальнік БНФ жыве ў эміграцыі, яна нічым не скончылася.

### Папраўкі ў закон выклікаюць трывогу

Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак распавёў аб тым, як ішла праца над папраўкамі ў закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму». Папраўкі ўключалі дапаўненне да экстрэмізму паняцця нацызму і пакаранне за яго рэабілітацыю. Алег Гулак адзначыў, што профільная камісія, якая працавала над тэкстам закона, запрасіла для яго абмеркавання шэраг арганізацый. І хоць яно не было цалкам адкрытым працэсам, але была магчымасць накіроўваць туды прапановы.

Крытыку праваабаронцаў больш за ўсё выклікалі найперш вельмі агульныя фармулёўкі паняццяў. У выніку з тэксту прыбралі папраўку аб прызнанні экстрэмісцкай сімволікі арганізацый, якія супрацоўнічалі з нацыстамі. Бо такім чынам можна было б забараніць выкарыстанне ўсіх сцягоў суседніх дзяржаў, у тым ліку і расійскага трыкалора, а таксама бел-чырвона-белага сцягу.

Па словах старшыні БХК, «працэс удалося вярнуць у межы здаровага сэнсу, але ён усё роўна застаецца трывожным». Да сёння няма абгрунтавання неабходнасці зменаў у закон, адсутнічае грамадская дыскусія на гэты конт, пра змены ў закон не кажуць дзяржаўныя СМІ. Атрымліваецца, закон, які павінен закранаць максімальна шырокае кола людзей, абмяркоўваецца ў вузкай групе. Да таго ж застаецца пытанне, як гэты закон будзе прымяняцца, занепакоены праваабаронцы.

«Відавочна, што праваахоўным органам вельмі падабаюцца фармальныя склады правапарушэнняў, калі не трэба нічога даказваць, а ёсць дзеянні, якія фармальна забароненыя, і за іх трэба пакараць. Гэта абсалютна непраўныя падыход, але гэта зручна», — падсумаваў Алег Гулак.

### Змаганне з экстрэмізмам супраць правоў чалавека

Апошнім часам мы сутыкаемся з прыцягненнем да адказнасці за лайк ці рэпост у інтэрнэце, і ў нашай краіне гэтая тэндэнцыя таксама набірае моц. На думку старшай дарадчыцы прадстаўніка па свабодзе СМІ АБСЕ Алены Чарняўскай, такая практыка пагражае свабодзе слова і медыя, асабліва анлайн-медыя. Апроч таго, цяпер з'яўляецца ўсё больш заканадаўчых актаў, якія дазваляюць дэшыфроўку паведамленняў у месенджарах, а таксама дзяржава спрабуе забараніць ананімнасць у сецыве, што ў першую чаргу б'е па журналістах і праваабаронцах.

«Наша асноўная пазіцыя ў тым, што мы можам змагацца з экстрэмізмам, толькі падтрымліваючы плюралізм сродкаў інфармацыі, — падкрэсліла Алена Чарняўская. — Нават у цяжкія часы ўрады павінны ствараць умовы для спрыяння свабоднай плыні інфармацыі».

Паводле яе словаў, улады павінны прызнаць, што журналісты маюць права паведамляць аб складаных феноменах у жыцці грамадства, і іх нельга за гэта перасьледаваць.

Старшая дарадчыца па правах чалавека Прадстаўніцтва ААН у Беларусі Мацільда Богнер зазначыла, што без цвёрдай асновы па рэалізацыі правоў чалавека барацьба з тэрарызмам можна пераўтварыцца ў інструмент іх парушэння. Пад эгідай барацьбы з тэрарызмам можа пачацца абмежаванне свабоды асацыяцый і выказвання меркаванняў, выкарыстанне катаванняў і неналежнае стаўленне да зняволеных.

Стэфанія Дэвід, прадстаўніца міжнароднай праваабарончай арганізацыі FIDH у ААН і дырэктар яе офіса ў Нью-Ёрку, распавяла, што яе калегі паспрабавалі прааналізаваць, як правы чалавека забяспечваюцца ў рамках барацьбы з тэрарызмам і экстрэмізмам. У ААН ёсць асноўныя прынцыпы і дакументы, якімі павінны кіравацца ўсе краіны-чальцы ААН. У адпаведнасці з імі, напрыклад, нельга абмяжоўваць правы і свабоды. Але ў рэальнасці яны парушаюцца, нібыта праз барацьбу з тэрарызмам і экстрэмізмам у многім абмяжоўваецца і грамадзянская супольнасць. Апроч таго няма адзінага вызначэння паняццяў міжнароднага тэрарызму і ваяўнічага экстрэмізму. Гэта дае магчымасць многім дзяржавам усё падводзіць пад гэтыя паняцці.

### Прапановы да ўладаў

У межах канферэнцыі праваабаронцы падрыхтавалі рэзалюцыю, у якой, сярод іншага, заклікалі ўлады Беларусі прывесці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі, у тым ліку перагледзець азначэнне экстрэмізму ў нацыянальным заканадаўстве; расфарміраваць экспертныя камісіі; пытанні прызначэння экспертызы і ацэнкі высноў экспертаў вырашаць у парадку, устаноўленым Працэсуальным кодэксам; прадугледзець асобны грамадзянскі працэсуальны парадак разгляду спраў аб прызнанні інфармацыйных матэрыялаў экстрэмісцкімі, які б замацаваў гарантыі забеспячэння правоў чалавека і асноўных свабодаў; не допускаць на практыцы адвольныя абмежаванні права на свабоднае выказванне меркавання пад лозунгам барацьбы з экстрэмізмам; блакіроўку анлайн-рэсурсаў прымяняць толькі ў якасці крайняй меры; запрасіць спецдакладчыкаў ААН па пытаннях барацьбы з тэрарызмам і гвалтоўным экстрэмізмам, па абароне права на свабоду меркаванняў, а таксама па пытанні аб праве на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

Азбука паліталогіі

# Калі не ён, дык хто?

**Важная асаблівасць «беларускай мадэлі» — адсутнасць электаральных рэйтынгаў у вышэйшых службовых асобаў дзяржавы.**



Сяргей НІКАЛЮК




Сярод маіх калегаў і знаёмых няма прыхільнікаў расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Таксама ў маім блізкім коле няма і тых, хто аддаваў бы перавагу аб'яднанню з Расіяй, а не ўступленню ў Еўрасаюз.

Аднак, калі меркаваць па шматгадовых даследаваннях НІСЭПД, прадстаўнікі еўрапейскага выбару заўсёды знаходзіліся ў Беларусі ў меншасці. Падчас апошняга апытання (лета 2016 года) незалежныя сацыёлагі зафіксавалі наступнае размеркаванне геапалітычных прыхільнасцяў беларусаў: аб'яднанне з Расіяй — 42%, уступленне ў Еўрасаюз — 34%, не здолелі адказаць — 24%.

Варта звярнуць увагу на высокі працэнт рэспандэнтаў, што не далі адказу. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца: усё, што звязана са знешняй палітыкай, ляжыць па-за межамі штодзённага вопыту простага чалавека. Таму свайго меркавання наконт геапалітыкі ў яго няма і быць не можа.

Аднак усё мяняецца, калі пераходзіць на асобы. Прыводжу размеркаванне адказаў на пытанне: «Як Вы ставіцеся да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна?» (чэрвень 2012 года): станоўча — 48%, абыякава — 35%, адмоўна — 13%, не здолелі адказаць — 4%.

У палітыцы і футболе, як вядома, разбіраюцца ўсе, але не ў любой палітыцы, а ў рэдукаванай да асабістых адносін. Як кажа мая сястра, чалавек з вышэйшай адукацыяй, якая ўсё сваё свядомае жыццё пражыла ў Ленінградзе-Пецярбургу: «Пры алкаголіку Ельцыне мы ледзь зводзілі канцы з канцамі, а Пуцін — малайчына, таму і жыццё наладзілася».

Пры Ельцыне (1991–1999) сярэдняя цана нафты складала 16,5 долара за барэль. Пры Пуціне яна тры гады запар трымалася вышэй за 110 долараў за барэль. Акрамя таго, большая частка прэзідэнцтва Ельцына прыйшлася на час, калі савецкага парадку ўжо не існавала, а новы яшчэ не сфармаваўся. Але спрабаваць растлумачыць такія «тонкасці» маёй сястры — значыць марнаваць час.

### Не выключэнне, а правіла

Калі я сутыкаюся па-за сваім блізкім колам з прыхільнікамі расійскага прэзідэнта, што гатовыя абараняць свайго куміра з пенай у рота, задаю ім простае пытанне-тэст: «А чым жа так вызначыўся Пуцін да таго, як стаў прэзідэнтам?» Нескладана здагадацца, што ўцямнага адказу на гэтае пытанне мне яшчэ ні разу не далі.

Заходжу на асабісты сайт нацыянальнага лідара Расіі. У раздзеле «Біяграфія» чытаю: «Пасля вяртання з Германіі ў Ленінград Уладзімір Пуцін з 1990 года займаў пасаду памочніка рэктара Ленінградскага дзяржуніверсітэта па міжнародных пытаннях». Іншымі словамі, ён быў звольнены з органаў, ці я нешта няправільна разумею?

Адпаведных каментараў у інтэрнэце — воз і вазочак. Аднак інтэрнэт — гэта памыйніца, як справядліва ахарактарызаваў сусветнае павуціння ў свой час адзіны беларускі палітык (АП). Так што я не рэкамендаваў бы спяшацца з адназначнымі высновамі.

«Хто быў нікім, той стане ўсім». Як паказала гісторыя, гэта поўнае аптымізму прароцтва аўтара словаў «Інтэрнацыяналу» Эжэна Пацье ніякага дачынення да працоўнага класу не мае. Іншая справа — наменклатура. Таму выпадак з Пуціным — не выключэнне, а правіла. З АП, між іншым, у пачатку 1990-х адбылася аналагічная гісторыя.

Усім нам неаднаразова даводзілася сутыкацца з пытаннем: «Калі не ён, дык хто?» Пытанне гэта надзвычай папулярнае на постсавецкай прасторы. Пошукам адказу на яго, як правіла, займаюцца ў апазіцыйным асяродку. Шукаюць — і не знаходзяць.

Незалежная сацыялогія марнасць пошукаў пацвярджае. Напрыклад, у чэрвені 2016 года электаральны рэйтынг АП склаў 30%, а ў яго бліжэйшых апанентаў Караткевіч і Статкевіча — 5%, у Мілінкевіча і Някляева — 3%. Далей ідзе яшчэ шэраг вядомых у вузкіх апазіцыйных колах прозвішчаў са значэннем рэйтынгу ніжэй статыстычнай памылкі.

Усё звыкла. Усё заканамерна. Але ў гэтым спісе няма ніводнага прозвішча прадстаўнікоў улады. Ні кіраўніка ўрада, ні старшыні парламента!

Пры такой сацыялогіі не павінна здзіўляць актуальнасць пытання: «Калі не ён, дык хто?» Але сацыялогія толькі фіксуе рэальнасць, яна яе не фарміруе.

Пошукі крыніц феномену адзінага палітыка прапаную правесці з дапамогай дырэктара Лявада-цэнтра Льва Гудкова: «У параўнанні з рэйтынгам папулярнасці палітыкаў у дэмакратычных краінах, дзе існуе палітычная і эканамічная канкурэнцыя і ёсць свабодная прэса, адкрытая крытыка ўлады. Мы маем справу зусім з іншай з'явай — гэта арганізаваны кансенсус, які трымаецца на вельмі **магутнай машыне прапаганды** (вылучана. — рэд.)».

### Ленін думае пра нас

На якой падставе футбольныя фанаты лічаць Ліянэля Месі вялікім футбалістам? Безумоўна, прэса не абыходзіць яго бокам, ды і рэкламадаўцы да яго добразычлівыя. Але следства не варта блытаць з прычынай. Месі, перш за ўсё, футбаліст, які забівае ў кожным сезоне больш за 30 галоў. Хочаце стаць другім Месі і зарабляць звыш 100 мільёнаў долараў на год? Няма праблем. Пачынайце рэгулярна забіваць лепшым камандам свету.

АП на беларускім палітычным полі гуляе ў ганаровай адзіноце. Ён забівае мячы ў браму, у якой няма брамніка. Таму і актуальнае пытанне: «Калі не ён, дык хто?» Між тым, спецыялістаў, здольных забіваць у пустую браму, знойдзецца ў Беларусі калі і не мільён, то ўжо сотня тысяч гарантавана. Але якімі б ні былі іх асабістыя якасці, шанцаў быць дапушчанымі паганяць мяч па палітычным полі ў іх няма. Не для таго чвэрць стагоддзя таму АП «падняў уладу з бруду».

Каб азнаёміцца са спецыфікай працы машыны беларускай прапаганды, далёка хадзіць не трэба. Прапаганда — на тое і прапаганда, каб быць публічнай. Ненавязлівасць не з'яўляецца яе моцнай бокам.

Возьмем які-небудзь выпадкова абраны прэс-рэліз з сайта АП. Напрыклад, за 21 траўня 2019 года — ён прысвечаны нарадзе па актуальных пытаннях эканомікі. Сапраўды, больш значную тэму адшукаць складана. Нездарма ж АП пастаянна нагадвае нам, што падмуркам паспяховай дзяржавы з'яўляецца моцная эканоміка.

**АП даўно ўжо нікога не перамагае на выбарах. Яго рэйтынг калі і публікуецца, то выключна перад выбарамі, каб апраўдаць будучы вынік ЦВК. За «норму» бярэцца другі тур у 1994 годзе, калі трыумфатар першых і апошніх дэмакратычных выбараў у Беларусі атрымаў 82% галасоў**

І якую інфармацыю пра стан беларускай эканомікі мы можам даведацца з прэс-рэлізу? Абсалютна ніякую. Прыводжу тыповы фрагмент дакумента: «Хацелася б пачуць ад прэм'ер-міністра і віцэ-прэм'ераў, якая сітуацыя ў нас з экспартам. Натуральна, найважнейшае пытанне — валавы ўнутраны прадукт. Які ў нас рух у гэтым кірунку?»

Інтрыгуючы пачатак, пагадзіцеся. Праблема, аднак, палягае ў тым, што нічога, акрамя пытанняў АП, тэкст прэс-рэлізу не ўтрымлівае. Пытанні ёсць, а адказаў на іх няма. Такі вось своеасаблівы рэмейк маналогу сатырыка Міхаіла Жванецкага «Сход на лікёра-гарэлачным заводзе» з яго знакамітым рэфрэнам: «Шкада, што мы так і не здолелі паслухаць начальніка транспартнага цэху».

Для чаго ж тады такі «змястоўны» дакумент быў размешчаны на галоўным дзяржаўным сайце? У чым яго сэнс? З якой мэтай падобныя дакументы потым тыражуюць дзяржаўныя СМІ?

А сэнс якраз і палягае ў тым, каб пераканаць чытачоў у наяўнасці ў краіне адзінага палітыка, які ўвесь час трымае руку на пульсе краіны і якому ёсць справа да ўсяго. Карацей, «Ленін думае пра нас».

Гэтай жа мэце служаць рэгулярныя наведванні АП прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

### Хто каго ўпрыгожвае?

Ва ўмовах палітычнай канкурэнцыі палітык не можа выскачыць як чорт з табакеркі. Мне запярэчаць: а як жа 40-ы прэзідэнт ЗША акцёр Рональд Рэйган? Аднак перш чым перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах у 1980 годзе, Рэйган двойчы перамагаў на выбарах губернатара штата Каліфорнія. Між іншым, самага населенага штата Амерыкі, што займае першае месца па аб'ёме ВУП у краіне. І тым не менш уехаць у Белы дом з першай спробы яму не ўдалося.

АП даўно ўжо нікога не перамагае на выбарах. Яго рэйтынг дзяржаўнымі службамі калі і публікуецца, то выключна перад выбарамі, каб апраўдаць будучы завоблачны вынік ЦВК. За «норму» бярэцца другі тур у 1994 годзе, калі трыумфатар першых і апошніх дэмакратычных выбараў у Беларусі атрымаў 82% галасоў. Пры гэтым сарамліва замоўчваецца, што дадзены працэнт падлічаны ад колькасці тых, хто прагаласаваў у другім туры. Ад спісачнага ж складу выбаршчыкаў (з улікам яўкі) узровень электаральнай падтрымкі быў сціплейшы — 56%.

Які б сёння электаральны рэйтынг зафіксаваў НІСЭПД, калі б у яго такая магчымасць, — пытанне адкрытае. Аднак разлічваць на паўтор гістарычнага мінімуму (20,5% у верасні 2011 года) не даводзіцца. У мінулым годзе «беларуская мадэль» забяспечыла рост рэальных даходаў насельніцтва на 8%, а рэальнай заработнай платы — на 11,6%. Атракцыён нечуванай шчодрасці працягнуўся і ў бягучым годзе, пра што, у прыватнасці, сведчыць павелічэнне імпарту легкавых аўтамабіляў у студзені-лютым на 38,2%.

Але якім бы ні быў рэйтынг, ён, у першую чаргу, ёсць вытворная ад статусу яго ўладальніка. Іншымі словамі, у нас не чалавек упрыгожвае месца, а месца — чалавека. Пра гэта неабходна памятаць, калі нам у чарговы раз задаюць пытанне: «Калі не ён, дык хто?»

# Беларусь была перадусім

« Заканчэнне. Пачатак у №20



Сяргей ШАПРАН

**Пяць гадоў без Генадзя Бураўкіна. Пра сумесны шлях даўжынёй больш чым у паўстагоддзя распавядае жонка паэта Юлія Якаўлеўна.**

— Калі Генадзь атрымаў прызначэнне на дыпламатычную пасаду, ехаць у Нью-Ёрк не хацелі ні ён, ні я, тым больш што мяне толькі нядаўна абралі дырэктарам выдавецтва «Народная асвета». Я сказала, што не паеду, на гэта Генадзь адказаў: «Ну, і я таксама»...

Прыехаўшы ў ЗША, мы апынуліся на зусім іншай планеце. Праўда, тое, чым я там займалася, было мала цікава мне: трэба было наведваць афіцыйныя прыёмы і нярэдка ехаць разам з Генадзем туды, куды мне ўвогуле не хацелася. Апроч таго існавала іншая праблема: грошай у нас было няшмат (па першым часе мы нават пазычалі), і вельмі цяжка было годна апранацца. Дасюль памятаю адзін афіцыйны прыём і такую карціну ў гардэробе: вісяць норкавыя футры, а сярод іх — мой шэры плашч савецкай вытворчасці... Я вельмі няёмка адчувала сябе тады...

Што ж тычыцца Генадзя, дык працы яму і ў Нью-Ёрку хапала, але працы найперш руціннай. Зрэшты, сам ён пасля гаварыў, што дыпламатычны досвед таксама спатрэбіўся яму, бо ў яго ўзнікла, так бы мовіць, маштабнасць бачання — раней для яго існавала найперш і пераважна Беларусь, а тут ён здолеў убачыць, па сутнасці, увесь чалавечы свет, усю планету, дзе ёсць не толькі краіна Беларусь, але, напрыклад, афрыканскі кантынент, на якім ад голаду паміраюць дзеці. І тут ужо паўставаў цяжкі маральны выбар: ці прасіць за Беларусь, ці існуюць больш важкія на дадзены момант пытанні...

Варта сказаць, што і падчас дыпламатычнай службы Генадзь мэтанакіравана праводзіў беларускую лінію, хоць, канешне, у Нью-Ёрку ўзнікалі пэўныя цяжкасці хоць бы таму, што ў беларускім прадстаўніцтве ў ААН працавалі прадстаўнікі ГРУ і КДБ — і абодва, вядома, з Масквы. І грошы беларускім прадстаўніцтвам выдучаліся на выданне мясцовай газеты пад назвай... «Русский голос». Прадстаўнікі ж беларускай дыяспары афіцыйна лічыліся калабарантамі. Гэта ўжо пасля 1991 года стаўленне да іх пачало змяняцца, і яны нават атрымалі магчымасць упершыню пасля вайны прыехаць на радзіму... Памятаю, як Вітаўт Кіпель распавядаў Генадзю пра свой першы прыезд у Мінск: «Падымаюся па прыступках гасцініцы, а мне насустрач старшыня КДБ. Скажы мне, ці выпадкова ён там апынуўся?..» Але і з Вітаўтам Кіпелем, і з Янкам Запруднікам Генадзь пазнаёміўся, калі яшчэ раней прыязджаў у Нью-Ёрк, і тады, дарэчы, прасіў іх не гаварыць публічна, у эміграцкім друку, добрыя словы на ягоны адрас, бо, тлумачыў, гэта ідзе яму не на карысць...

У Нью-Ёрку мы пазнаёміліся і з Наталляй Арсенневай, тым больш, што наша дачка Святлана пісала курсавую працу па яе творчасці. Арсеннева аказалася вельмі прыемнай і сімпатычнай — маленькая, вытанчаная, чарнявая. Яны з Генадзем адразу адчулі прыязнасць адзін да аднаго... Згадваецца яе аповед пра тое, як яна прыехала ў Амерыку з трыма далярамі ў кішэні... Потым мы яшчэ раз сустрэліся — на з'ездзе беларусаў Паўночнай Амерыкі, дзе нечакана апынуліся побач. І калі ёй далі слова для выступу, Генадзь падхапіўся, каб падаць ёй руку, але яна адмовілася і горда пайшла да мікрафона — маўляў, маладая яшчэ і дапамога ёй без патрэбы! Хоць колькі ёй было — восемдзясят?.. Памятаю, з якім запалам яна чытала гэты свой вядомы верш:

*Ня дось крычаць аб Беларусі*
*і захлынацца ўласнай слінай,*
*ня досыць верш слабы згарусціць*
*і прысвяціць яго краіне...*

***

А як мы ўзрадаваліся, калі Беларусь была абвешчана незалежнай краінай! Праўда, тут жа ўзнікла нечаканая праблема: трэба было вывесіць на флагштоку каля нашага прадстаўніцтва новы сцяг, але ніхто не ведаў дакладных прапорцый бел-чырвона-белых колераў — ні наша амерыканская дыяспара, ні тым больш у Мінску. Але неяк з дапамогай мясцовых беларусаў мы здолелі даведацца пра гэта... Якія мы былі тады шчаслівыя! Мы ледзь не плакалі, гледзячы на наш бел-чырвона-белы сцяг... Гэта былі хоць і няпэўныя, але найшчаслівейшыя дні нашага жыцця ў Амерыцы. Няпэўныя, бо да Генадзя пастаянна апелявалі журналісты, аднак што ён мог сказаць, калі і ў Мінску нічога не ведалі?..

У той час Генадзь неаднойчы пісаў заявы аб адстаўцы — ён прагнуў вярнуцца ў Беларусь, бо на радзіме адбываліся карэнныя перамены, ішло адраджэнне, беларусізацыя, а ён у гэты час знаходзіўся далёка за акіянам. Аднак калі, нарэшце, ягонае прашэнне было задаволенае, высветлілася, што яго не дужа тут і чакалі. Хоць тагачасны прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч і паабяцаў пасаду міністра культуры і друку, але калі Генадзь вярнуўся, нейкі час увогуле заставаўся без працы. Гэта ўжо потым яго прызначалі ўсяго толькі намеснікам міністра... Памятаю, як супакойвала яго: «Не — і не трэба. Наш час мінуў. Урэшце ў цябе ёсць літаратура». Трэба ж было неяк суцешыць яго. У адказ ён толькі маўчаў...



З жонкай Юліяй Якаўлеўнай. Фота з сямейнага архіва Бураўкіных

Зрэшты, я ж таксама хадзіла на прыём да тагачаснага міністра культуры Анатоля Бутэвіча — прасілася на працу, але безвынікова. Хоць для мяне не абавязкова было ўладкавацца дырэктарам ці галоўным рэдактарам выдавецтва — дастаткова было і пасады загадчыка аддзела...

Намеснікам міністра культуры і друку Генадзь адпрацаваў усяго год. «Я не магу з імі!» — казаў ён неаднойчы. І прасіў Валянціна Блакіта, які быў рэдактарам «Вожыка», трымаць яму месца, так бы мовіць, «запасны аэрадром». У выніку, звольніўшыся з Міністэрства культуры, стаў намеснікам рэдактара часопіса «Вожык». Трэба ж было за нешта жыць — у нас не было вялікіх зберажэнняў. Але калі ўжо быць бедным, дык лепш усё-ткі ў сваёй краіне...

Вядома, Генадзь адчуваў сваю незапатрабаванасць. Сам ён ніколі пра гэта не гаварыў, бо ўсё насіў у сабе, але я адчувала, што яму цяжка і невыносна горка... Гэта не па-чалавечы — тое, як паступалі з Генадзем, пачынаючы з 2000-х гадоў, — рабілі выгляд, быццам яго няма. Аднак што яму заставалася?.. Ён пісаў вершы і публіцыстыку, вёў калонку ў газетах Аляксандра Старыкевіча «Беларускі час» і «Салідарнасць». І па-ранейшаму заставаўся ў віры, у эпіцэнтры грамадскага жыцця — людзі ішлі да яго бясконца... Аднойчы нават прапанавалі вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты, але Генадзь адмовіўся і нават не раіўся са мной...

***

Для яго праз усё жыццё былі важны ягоныя прынцыпы. Мусіць, невыпадкова ў апошнія свае дні Генадзь адным са сваіх галоўных учынкаў назваў абарону Васіля Быкава. Ён меў на ўвазе гісторыю 1966 года, калі пасля публікацыі ў часопісе «Новый мир» аповесці «Мёртвым не баліць» Васіля пачалі шальмаваць у друку. Тады Генадзь разам з Анатолем Вярцінскім напісаў ліст у ЦК КПБ, пад якім яны сабралі больш за пяцьдзясят подпісаў пісьменнікаў. Я, канешне, ведала пра той ліст — дзе ж было не ведаць, калі мы жылі ў двухпакаёвай кватэры, а раніцай, а палове восьмай, раптоўна прыйшоў Іван Навуменка, які напярэдадні адмовіўся падпісваць гэты ліст, але ўранні перадумаў, і я бегала па кватэры ў начнушцы і не ведала, куды падзецца. Дасюль памятаю тое пачуццё няёмкасці, пакуль ужо Генадзь не пайшоў з Навуменкам на кухню... І сёння ў памяці той дзень, калі Генадзь павёз ліст у ЦК. Я праводзіла яго да тралейбуснага прыпынку, што быў каля Дома друку, праводзіла з думкай, што развітваюся ледзь не назаўсёды, — я была перакананая, што яго пасадзяць. Але, дзякуй Богу, абышлося...

А калі ў Саюза пісьменнікаў забіралі Дом літаратара, Генадзь быў адзіны, хто, пратэстуючы, цэлы дзень прастаяў з плакатам у пікеце каля Дома літаратара... Пазней ён дапамагаў адстаяць Саюз беларускіх пісьменнікаў, калі зайшла размова пра ягоную ліквідацыю. У Генадзя тады спынілася сэрца... Я потым пыталася: «Навошта ты так хваляваўся?» — «Я не хваляваўся, — казаў ён. — Проста я адчуў сцяну, як у Васіля ў апавяданні, і я не мог прабіцца праз гэтую сцяну!»

***

А ў тую апошнюю восень... У яго й настрою не было, і апетыту, ён пачаў хутка стамляцца...

Пра хваробу дакладна стала вядома ў снежні. Ён быў у лечкамісіі яшчэ ў сакавіку, і адтуль яго накіравалі ў Бараўляны, дзе, зрэшты, урачы нічога не дыягнаставалі, але папрасілі прыйсці ў верасні. Аднак восень ён правёў на лецішчы. Ён вельмі любіў Крыжоўку!.. Звычайна мы з дзецьмі з'язджалі напрыканцы жніўня, а Генадзь заставаўся адзін. Ён, відаць, нават чакаў, пакуль мы з'едзем, і, застаўшыся сам-насам, паліў грубку, глядзеў на вогнішча, чытаў, думаў і пісаў вершы... Вярнуўшыся з Крыжоўкі гэтым разам, ён не спяшаўся ў Бараўляны, пакуль урач сама не патэлефанавала. Толькі тады, пасля новага абследавання, стала вядома пра анкалогію. Генадзю прапанавалі адразу пакласціся ў бальніцу, але ён запярэчыў: «Новы год трэба сустрэць». І ў Бараўляны зноў паехаў ужо ў студзені...

Па дзіўным супадзенні, у тую апошнюю восень на нашым лецішчы раптам упала вялікая сасна. Генадзь распавядаў, што выходзіў з дому — і каб зрабіў яшчэ крок, то загінуў бы. А другая сасна ўпала 13 студзеня — у той дзень, калі ён паклаўся ў бальніцу...

Ён, відаць, прадчуваў нядобрае. Таму і такі апошні верш у яго апошняй прыжыццёвай кнізе «Нагаварыцца з зоркамі»:

*У кватэры настылай*
*Я шукаю прытулку ў мальбе...*
*Мой адзіны,*
*Мой мілы,*
*Навучы мяне жыць без цябе...*

Верш прысвечаны жонцы мастака Арлена Кашкурэвіча Людміле. Генадзь апошнім часам бываў у доме Кашкурэвічаў, бо Арлен пісаў ягоны партрэт. А калі яго раптам не стала, у Генадзя выплеснулася гэта на паперу... Ён ужо ведаў пра сваю хваробу і, мусіць, напісаў гэта не для адной Людмілы, але і для мяне таксама, для ўсіх...

Ён да апошняга не верыў у свой сыход. І толькі, відаць, калі зусім ужо апусціў крылы, тады і захацеў паспець сказаць пад запіс тое, што павінен быў сказаць, захацеў убачыць сваю апошнюю кнігу, якую я потым паклала разам з ім... Канешне, ён быў і застаўся найперш паэтам. Таму мы і напісалі на яго надмагільным помніку — паэт.

***

Ці была я шчаслівая з ім? Дасюль не ведаю адказу на гэтае пытанне. Усё-ткі нашае жыццё было такое разнастайнае... У ім было ўсё — і добрае, і кепскае, і радаснае, і горкае, шчаслівае і не. Мы ж не анёлы абое былі... Адзінае, што я вельмі рада, што ў нас такія дзеці — дачка Святлана і сын Аляксей. Яны цалкам падзялялі і падзяляюць нашы думкі і пачуцці. У гэтым сэнсе я насамрэч шчаслівая. А калі жанчына шчаслівая ў дзецях, значыць, яна ўвогуле шчаслівая, ці не так?.. Шчасце — гэта крыху дзіўнае паняцце... Усё ж больш як пяцьдзясят гадоў пражыта разам, і не магу сказаць, што гэта былі бясхмарныя гады. Колькі я пераплакала... А пасля прачытаеш ягоны верш... І я даравала яму ўсё за яго паэзію...

Для Генадзя праз усё жыццё на першым месцы была нават не праца, а літаратура. Калі пабудаваць градацыю важных для яго паняццяў, дык яна будзе наступнай: літаратура і сябры-літаратары, праца і ўжо потым ішла сям'я. Аднойчы ён нават прызнаўся: «Я адчуў сябе бацькам толькі тады, калі нарадзілася Святлана...» Але перадусім для яго былі Беларусь і беларушчына — яны былі ў яго душы і сэрцы пастаянна, гэта і было яго сапраўдным жыццём. У Генадзю было нешта такое, перад чым я схіляла галаву. Ён усё жыццё ішоў і змагаўся за беларускае — нягледзячы ні на што, нягледзячы ні на мяне, ні на дзяцей. І, вядома, меў рацыю, калі папрасіў у апошнія свае дні, каб на яго надмагільным помніку былі гэтыя два радкі:

*Ты, мой народ, мяне не папракнеш:*
*Я ўсё табе аддаў — жыццё і сілы...*

Бо Беларусь была для яго праз усё жыццё перадусім.



Фота Паўла Аксіновіча

**Для Беларусі ідэі камунізму жорстка звязаныя з адносінамі да «старэйшага брата». Людзі, якія сёння з'яўляюцца камуністамі па перакананнях, абавязкова выступаюць за вяртанне да СССР. Расце і колькасць беларускіх грамадзян, якія захапляюцца больш расійскім, чым беларускім кіраўніком**

# Камунізм у сучаснай Беларусі: ці магчыма вылечыцца?

« Заканчэнне. Пачатак у №18

Таццяна ПРОЦЬКА

**Камуністычныя ідэі існуюць толькі ў сістэме. Часам прыхільнікам камунізму падаецца, што можна рэалізаваць адны палажэнні, потым іншыя. У гісторыі СССР–БССР такія спробы рабіліся неаднойчы. Яшчэ жывыя людзі, якія памятаюць лозунгі пра неабходнасць стварэння спачатку матэрыяльнай базы камунізму, задавальнення асобных патрэбаў насельніцтва (да пачатку 1990 года, напрыклад, любая савецкая сям'я павінна была мець асобную кватэру), развіццё і задавальненне духоўных патрэбаў, развіццё навукова-тэхнічнага прагрэсу. Усе гэтыя пачынанні заканчваліся дрэнна.**

## Вытворчасць

Скіраванасць на развіццё навукова-тэхнічнага прагрэсу, што распачалася ў сярэдзіне 1980-х гадоў, адразу паставіла пытанне пра адпаведны высокі тэхнічны ўзровень працоўных. Высветлілася, аднак, што на вытворчасці шырока распаўсюджана звычайнае п'янства працаўнікоў. Барацьба з п'янствам, з аднаго боку, прывяла да знішчэння вінаграднікаў, а з іншага — стала зразумела, што без «алкагольных грошай» у бюджэце проста нельга абысціся.

Сёння ўзровень ужывання алкаголю на душу насельніцтва яшчэ больш высокі, чым у пачатку барацьбы з п'янствам. На кожнага жыхара нашай краіны, старэйшага за 15 гадоў, у 2010 годзе прыпадала па 17,5 літра чыстага алкаголю (зараз 11,2 літра). На той момант мы былі самай пітушчай нацыяй у свеце. Па дадзеных СААЗ, спажыванне чалавекам больш за 8 літраў нясе пагрозу не толькі яго здароўю, але і вядзе да дэградацыі грамадства, зніжэння працоўнай прадуктыўнасці і ўплывае на наступныя пакаленні.

Тыя ці іншыя адметныя рысы камунізму ў Беларусі больш ці менш распаўсюджаныя, папулярныя, праяўляюцца ў залежнасці ад наступных фактараў:

— геаграфічнага вызначэння беларускіх рэгіёнаў (Захад, Усход, бліжэй да Расіі, Польшчы і інш.), своеасаблівасцяў іх эканамічнага і гістарычнага развіцця;

— горад ці вёска, абласны ці раённы цэнтр, Мінск (74,5% насельніцтва Беларусі жыве ў гарадах, 25,5% — у вёсках);

— узроўню ўспрыняцця: асоба, мабільныя групы (суседзі, чарга, сябры), пастаянныя групы — калектывы арганізацый, дзяржаўных установаў, бізнесовых структураў), элітныя групы, кіраўнікі краіны;

— узроставага стану: моладзь, працуючыя, пенсіянеры. Моладзь складае 21,6% насельніцтва (25,6% — у горадзе, 15,8% — у вёсцы). На тысячу працаздольных чалавек прыпадае 258 дзяцей і 366 пенсіянераў.

Людзі, якія па ўзросце, па стане здароўя ці сямейнага стану залежныя ад дзяржаўнай дапамогі, больш заражаныя камунізмам. Гэта праяўляецца, перш за ўсё, у адносінах да самой сістэмы — беларусы ад самага пачатку савецкай улады лічылі (і лічаць да сёння), што ім абавязанна дапамагаць за іх лаяльнасць да ўлады.

Галоўным для аналізу заражэння камунізмам з'яўляецца ўзровень яго ўспрыняцця. На асобнага чалавека ўздзейнічаюць шмат розных фактараў — гэта і думкі бацькоў, і мужа-жонкі, і суседзяў, і кіраўнікоў.

Сёння светапогляд людзей фармуецца больш пад уплывам электронных сродкаў масавай інфармацыі. Беларускае тэлебачанне ў цэлым імкнецца адысці ад адкрытай прапаганды ідэй камунізму. Але яно захоўвае савецкія формы і спосабы атрымання інфармацыі, яе падачы гледачам. Асабліва камуністычным па форме з'яўляецца навінавы блок, які, як і ў савецкія часы, паказвае найперш, што сказалі па тым ці іншым пытанні кіраўнік краіны і яго атачэнне, як усё гэта падтрымліваюць і выконваюць. Прагледзеўшы амаль месяц розныя праграмы, даступныя для шырокага кола беларусаў, магу засведчыць — нават расійскія каналы адмовіліся ад адкрытай прапаганды камунізму. І калі на шматлікія беларускія палітычныя шоў і запрашаюць асобных прыхільнікаў камунізму, выглядаюць яны на агульным фоне зусім не станоўча. І, тым болей, — непераканаўча.

## Эліта ёсць?

Для Беларусі, як для развіцця камунізму, так і антыкамунізму, найбольшае значэнне мае ўспрыняцце і адносіны да камунізму з боку кіраўнікоў — дзяржавы, абласцей, раёнаў, ведамстваў, прадпрыемстваў. У дзяржкіраванні, паводле афіцыйных дадзеных, занятыя 185,1 тысячы чалавек. Як і ў савецкія часы, усе кіраўнікі публічна выказваюць меркаванні, якія не адрозніваюцца і, тым болей, не пярэчаць выказванням кіраўніка краіны. Разам з тым, калі ўважліва прааналізаваць выказванні кіраўніка, можна заўважыць, што калі ён у сваёй прамове прытрымліваецца падрыхтаванага тэксту, камуністычныя ідэі прысутнічаюць у яго выказваннях зусім нязначна і незаўважна. Іншая сітуацыя, калі наш правадыр пачынае разважаць наконт нейкага пытання, дае ацэнку. Інфармацыя і самі паводзіны вышэйшай беларускай дзяржаўнай асобы мала адрозніваюцца ад паводзін кіраўнікоў КПСС так званага «часу перабудовы».

У персаніфікаваным грамадстве значную ролю ў развіцці любых ідэй маюць папулярныя (выбітныя) асобы. У савецкія часы камуністычнае партыйнае кіраўніцтва БССР надавала шмат увагі, як тады казалі, ідэалагічнаму ўзроўню папулярных людзей, яно кантралявала гэты ўзровень, адсочвала публічныя і (з дапамогай спецслужбаў) непублічныя іх выказванні, ажыццяўляла жорсткую цэнзуру іх дзейнасці. Калі ідэалагічны ўзровень папулярнай асобы не быў на патрэбным узроўні, папулярнасць скасоўвалася, сам чалавек рэпрэсаваўся, нягледзячы на талент і «народную любоў».

Прыхільнасць улады да асобы засведчвалася ў БССР праз наданне ганаровых званняў. У сучаснай Беларусі гэтая схема захавалася і нават атрымала развіццё. Сёння ў Беларусі існуюць ганаровыя званні «народных»: паэтаў, пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, лекараў, настаўнікаў. І «заслужаных»: артыстаў, вынаходнікаў, рацыяналізатараў, настаўнікаў, лекараў, лесаводаў, будаўнікоў, архітэктараў, сувязістаў, геолагаў, эканамістаў, юрыстаў, энергетыкаў, металургаў, шахцёраў, — усіх не пералічыш. Але калі ў часы БССР (з 1956 года) званне «народных» атрымалі 6 паэтаў (у тым ліку Янка Купала і Якуб Колас), то ў часы незалежнай Беларусі — толькі Ніл Гілевіч (1991 год) і Рыгор Барадулін (1992 год). Народных пісьменнікаў у БССР было сем (у тым ліку і Васіль Быкаў), у незалежнай Беларусі — толькі Іван Чыгрынаў (1994 год) і Іван Навуменка (1995 год). Заўважу, што з 1994 года званне «народных» прысвойваецца менавіта кіраўніком дзяржавы.

Неабходны зараз ідэалагічны ўзровень папулярнай асобы вызначаецца крыху інакш, чым у савецкія часы. Сёння, каб стаць ці застацца папулярным, неабходна публічна выказвацца ў падтрымку словаў і дзеянняў кіраўніка. Тыя, хто гэтага не робіць, пазбаўляюцца магчымасцяў атрымліваць папулярнасць праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, падвяргаюцца сапраўднаму астракізму — як і ў часы старажытнай Грэцыі. Некаторыя з іх вымушаныя з'язджаць з Беларусі. Яскравы прыклад вынікаў такой палітыкі — лёс і адносіны да творчасці вядомага яшчэ ў савецкія часы беларускага паэта Уладзіміра Някляева.

Трэба адзначыць, што бальшавіцкая сістэма была больш паспяховай у заахвочванні да супрацоўніцтва таленавітых і папулярных людзей. Савецкія матэрыяльныя ільготы, якія мелі пісьменнікі, мастакі, артысты, былі больш шырокімі і прывабнымі, чым зараз. Складаецца ўражанне, што сучасная беларуская ўлада не вельмі верыць папулярным публічным асобам, не зацікаўленая ў стварэнні культу ніякіх іншых асоб, акрамя яе кіраўніка.

Для разумення сітуацыі з распаўсюджваннем камунізму ў Беларусі вельмі важным з'яўляецца аналіз стану беларускіх эліт-груп, якія па вызначэнні павінны валодаць рэальнай уладай або ўплывам на прыняцце рашэнняў у тых ці іншых вызначаных структурах грамадства і дзяржавы. Мне падаецца важным разглядаць узровень «паразы камунізмам» у элітаў:

- рабочых (прафсаюзныя лідары, так званыя «перадавікі вытворчасці» і іншыя);
- сялянаў (кіраўнікі фермерскіх гаспадарак, кіраўнікі прадпрыемстваў);
- інжынерна-тэхнічных работнікаў (вядучыя работнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў і фірмаў);
- навукоўцаў (кіраўнікі навуковых установаў, кандыдаты і дактары навук, акадэмікі);
- творчых асобаў (кіраўнікі творчых саюзаў, вядомыя і папулярныя пісьменнікі, мастакі, выканаўцы);
- бізнесоўцаў (кіраўнікі і ўладальнікі буйных і вядомых прадпрыемстваў і фірмаў);
- працаўнікоў дзяржкіравання (да іх эліты можна аднесці кіраўнікоў і намеснікаў міністэрстваў і ведамстваў, іх абласных і раённых аддзяленняў, кіраўнікоў выканаўчых камітэтаў рэспубліканскага, абласнога і раённага ўзроўняў);
- ваенных, міліцыі і спецслужбаў (кіраўнікі рэспубліканскага, абласнога, раённага ўзроўняў, Мінска);

• грамадскіх арганізацый (кіраўнікі як праўладных, так і апазіцыйных арганізацый, зарэгістраваных дзяржавай і незарэгістраваных).

Маецца шмат агульных рысаў паміж савецкімі камуністычнымі вышэй названымі элітамі і іх сучасным вобразам. Гэтыя рысы наступныя:

• персанальная залежнасць складу элітаў ад кіраўніка дзяржавы;
• закрытасць інфармацыі пра асабістае жыццё элітаў;
• закрытасць інфармацыі пра тое, як эліты фарміруюцца і дзейнічаюць;
• публічная дэманстрацыя прыхільнасці да ідэалогіі і падтрымкі дзеянняў кіраўніка дзяржавы;
• нежаданне браць на сябе адказнасць за тое, што адбываецца ў дзяржаве;
• наяўнасць сувязяў і кантактаў па-за межамі і незалежна ад службовых абавязкаў паміж асобамі, якія ўваходзяць у элітную групу, толькі з так званымі «сваімі людзьмі» (людзі з аднаго роду, адной мясцовасці, адных інтарэсаў).

Падабенства рысаў сучасных беларускіх элітаў з камуністычнымі ўжо надае ім мала аўтарытэта ў грамадстве. Некаторыя людзі нават адмаўляюцца называць іх элітай.

## Камунізм элітаў

Узровень інфекцыяванасці камунізмам у элітаў розны. Я вызначала яго, аналізуючы выказванні прадстаўнікоў гэтых элітаў у прэсе — у агульнарэспубліканскіх і ведамасных папяровых і інтэрнэт-выданнях. Трэба зазначыць, аднак, што публічныя выказванні адказных асобаў, як і ў савецкія часы, могуць значна адрозніваецца ад іх асабістай думкі, якая выказваецца ў абмежаваным коле людзей (а можа быць, не выказваецца ўвогуле). Існаванне ў элітаў (і наогул, у большасці публічных беларусаў) процілеглых думак для публічнага і асабістага карыстання — таксама камуністычная спадчына.

Каб правесці дакладны аналіз такіх выказванняў, патрабуецца шмат часу. Таму я абмежавалася разглядам, на мой погляд, найбольш уплывовых у палітычным плане групаў (так званы «сілавы блок») — ваенных, міліцыі і спецслужбаў. У савецкія часы менавіта гэтыя групы вызначалі асноўныя напрамкі і спосабы развіцця дзяржавы і грамадства. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што і сёння гэта самыя ўплывовыя групы. Менавіта яны валодаюць як сродкамі дзяржаўнага прымусу, так і ўсёй паўнатой інфармацыі пра дзяржаўнае, грамадскае і асабістае жыццё, атрыманай у тым ліку з дапамогай аператыўна-пошукавых дзеянняў.

На 1 студзеня 2018 года колькасць занятых у беларускай арміі складала амаль 65 тысяч чалавек, з якіх вайскоўцаў — крыху больш за 46 тысяч. Уладзімір Навумаў, міністр унутраных спраў па 6 красавіка 2009 года, казаў пра 77 тысяч супрацоўнікаў у міліцыі, з якіх 11 тысяч — вайскоўцы ўнутраных войскаў, і да гэтага — 12 тысяч рабочых і служачых аб'яднання аховы. Некаторыя эксперты спасылаюцца на дадзеныя ААН 2013 года, згодна з якімі ў Беларусі на 100 тысяч чалавек прыпадае 1442 міліцыянты. Калі ў Беларусі 9,5 мільёна насельніцтва, то міліцыянтаў — 136 990 чалавек.

Гаворачы ў Фэйсбуку пра веру ў камунізм, пісьменнік Леанід Дайнека заўважае: «Хаця мушу зазначыць, што паміж нашых кіруючых элітаў на постсавецкай прасторы такая вера, вядома ж, падагнаная пад новыя рэаліі, існуе».

Найлепшай ілюстрацыяй гэтага меркавання з'яўляецца прысутнасць міністра ўнутраных спраў Беларусі на парадзе ў форме супрацоўніка НКУС. Не меншае абурэнне грамадскасці выклікала ахова так званай «паркавай скульптуры» — «помніка гарадавому», зладжаная міліцыянтамі. Разам з тым, ведамасная газета МУС «На страже», падпіска на якую абавязковая для ўсіх супрацоўнікаў міліцыі, значна адрозніваецца ад свайго папярэдніка «На страже Октября». За 1939 год у газеце «амаль чвэрць матэрыялаў тычылася партыйнай (43) і камсамольскай (36) працы, а таксама вывучэння гісторыі партыі (18). Прыкладна столькі ж публікацый закранаді пытанні сацыялістычнага спаборніцтва і працы выдатнікаў (98)». Зараз газета прысвечаная ў большасці інфармацыі пра справы і праблемы ведамства. За красавік бягучага года прапаганды камунізму ў газеце я не знайшла.

Але падабенства з аналагічнай структурай савецкага часу застаецца. Як і ў камуністычныя часы, у дачыненні да палітычных апанентаў у супрацоўнікаў МУС маецца фактычная свабода дзеянняў, вызваленне ад адказнасці за любыя парушэнні правоў палітычных актывістаў. Шараговыя супрацоўнікі міліцыі фактычна вымушаныя лжэсведчыць падчас судовых разглядаў у дачыненні да палітычных і грамадскіх актывістаў, прадстаўнікоў незалежных СМІ. Як і ў савецкія часы, гэта падрывае давер да праваахоўнай сістэмы.



У красавіку гэтага года прайшла дыскусія: «Наступныя выбары як інструмент змяненняў у сферы бяспекі Беларусі. Праваахоўная сістэма», арганізаваная Belarus Security Blog. У дыскусіі было вызначана: «Акрамя таго, шараговыя міліцыянты па факце абсалютна бяспраўныя перад тварам кіраўніцтва, няма эфектыўнай сістэмы абароны правоў падначаленага перад свавольствам кіраўніка. У сістэме МУС дзейнічае прынцып, пры якім кіраўнік мае рацыю заўсёды, што б ён ні рабіў». Менавіта такія адносіны сведчылі і супрацоўнікі НКУС у савецкія часы.

Не лепшая, хоць і іншая, сітуацыя сярод вайскоўцаў. Прагледзеўшы падшыўку «Белорусской Военной газеты "Во славу Родины"», я звярнула ўвагу на артыкулы, аўтарам якіх з'яўляецца начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны, палкоўнік Уладзімір Макараў.

Журналіст Павел Ярашэнка наступным чынам характарызуе дзейнасць кіраўніка інфармацыйнай службы ідэалагічнага ўпраўлення беларускай арміі: «Артыкулы Уладзіміра Макарава заўсёды выклікаюць жывую цікавасць чытацкай аўдыторыі. Іх чакаюць і зачытваюць да дзірак. Кажу гэта не па чутках, на досведзе зносін з многімі былымі і цяперашнімі ваеннымі, для якіх гэтая газета — незаменная крыніца ведаў наогул, а ваенных і гістарычных — асабліва. У гэтым плане паказальная публікацыя ў нумары «БВГ» за 25 лютага 2015 года: «Вайна, рэвалюцыя і сучаснасць», прысвечаная 70-годдзю Вялікай Перамогі і 100-годдзю Першай сусветнай вайны. Не ўдаючыся ў падрабязнасці гэтага найцікавага, хоць і вельмі вялікага артыкула Уладзіміра Макарава (некалькі газетных старонак), адзначу: чытаецца яна, як той казаў, на адным дыханні. І кожны яе аргумент пераканаўчы. Магчыма, да яе ўдасканалення прыклаў руку і творчы калектыў агенцтва «Ваяр», але ў сваёй аснове гэта — вынік ладу жыцця аўтара. Як па-майстэрску Уладзімір Мацвеевіч Макараў раскладвае на лапаткі тых «гісторыкаў», якія спрабуюць паставіць на адну дошку абедзве вельмі жорсткія сутычкі, вытрыманыя нашым народам з імперыялізмам у першай палове мінулага стагоддзя!.. Уражвае і яго выснова пра тое, што для сучаснага часу «няма нічога больш гідкага і агіднага, чым слабая і бязвольная ўлада»... Выклікае сімпатыю таксама тэзіс Уладзіміра Макарава аб стварэнні магутнай Саюзнай дзяржавы як пра прарыў у новае тысячагоддзе».

Каментаваць гэты тэкст, мне падаецца, няма патрэбы. Зазначу толькі, што палкоўнік Макараў працуе ва ўпраўленні болей за дзесяцігоддзе.

Падобныя артыкулы вядуць да страты даверу да ведамства з боку грамадскасці. Пасля таго, як стала вядома аб абуральных фактах парушэння законнасці ў армейскім асяроддзі, ваеннаму ведамству былі пададзеныя грамадскія прапановы па выпраўленні сітуацыі. Але, як і ў савецкія часы, ведамства іх адхіліла, назваўшы «непрафесійнымі».

## Адысці ад Саветаў

Усе беларускія сілавыя ведамствы адзначылі свае 100-годдзі. 20 снежня 2017 года адзначаў юбілей і беларускі КДБ. За дату свайго стварэння беларускія спецслужбы лічаць дзень стварэння Надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам — найбольш адыёзнай структуры савецкага часу. Старшыня КДБ Валерый Вакульчык з нагоды юбілею даў інтэрв'ю газеце «Советская Белоруссия». Вакульчык, характарызуючы дзейнасць ведамства, зазначыў: «Сёння ў нас створаныя свае, нацыянальныя школы выведкі і контрвыведкі, забеспячэння эканамічнай бяспекі і барацьбы з карупцыяй, прычым з ужываннем метадаў спецслужбы... У нас з'явілася свая школа ўрадавай сувязі. І час паказаў эфектыўнасць працы практычна па ўсіх напрамках».

Пасля 2010 года кіраўнікі ведамства публічна старанна падкрэсліваюць непалітычны характар ведамства, ягоную незаангажаванасць іншымі структурамі ўлады. Як зазначае эксперт Андрэй Паротнікаў, «спецслужба ўглядвае свае карані значна раней утварэння СССР: пачынаючы з XI стагоддзя і далей у эпоху існавання Вялікага Княства Літоўскага. КДБ імкнецца абвергнуць абвінавачванні ў недастатковай патрыятычнасці з-за залішне цесных сувязяў з расійскімі спецслужбамі».

Для Беларусі ідэі камунізму жорстка звязаныя з адносінамі, як вучылі ў савецкія часы, да «старэйшага брата» — Расійскай дзяржавы. Людзі, якія сёння з'яўляюцца камуністамі па перакананнях, абавязкова выступаюць за вяртанне да СССР. Расце (паводле маіх назіранняў) і колькасць беларускіх грамадзян, якія захапляюцца больш расійскім прэзідэнтам, чым сваім кіраўніком, жадаюць бачыць Пуціна правадыром Беларусі. Цікава, што прыхільнікі Пуціна маюць надзею атрымаць разам з ім толькі высокія пенсіі і заробкі. Бачыць у Беларусі «зялёных чалавечкаў» і расійскую адміністрацыю ніхто з апытаных мною не жадае. Нават магчымае атрыманне расійскіх пашпартоў, абяцанае расійскім прэзідэнтам, большасцю людзей разглядаецца як пашырэнне магчымасці добрых заробкаў, а не як адмова ад Беларусі. Ні пра які камунізм і яго вяртанне тут няма нават гаворкі: згодна апошняму перапісу, 83,7% насельніцтва Беларусі лічаць сябе беларусамі, 53,2% лічаць беларускую мову роднай.

Савецкі і расійскі палітычны дзеяч Якаўлеў ва ўводзінах да рускага выдання «Чорнай кнігі камунізму» напісаў: «У камуністычнай схеме рускія бальшавікі ўбачылі спекуляцыйную магчымасць мабілізацыі згалелых і бяспраўных мас Расіі на звяржэнне старога рэжыму на аснове помсты і нянавісці. Прывабная мара перарадзілася ў выродлівую практыку, якую я называю бальшавізмам. Ён інтэрнацыянальны, але ў кожнай краіне набыў свае асаблівасці. Нацызм у Германіі, фашызм у Італіі, франкізм у Іспаніі, мааізм у Кітаі і гэтак далей». Болей за 95 мільёнаў ахвяр камунізму ва ўсім свеце ў XX стагоддзі — вялікая плата за спробы яго ажыццяўлення.

Заражэнне Беларусі камунізмам — тэма складаная і яшчэ дасканала не даследаваная. Маю надзею, што прапанаваная ў артыкулах схема дапаможа будучым даследчыкам не толькі вызначыць маштабы захворвання, але і знайсці да яго надзейныя лекі.



Фота Паўла Аксіновіча

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Містычная Азія

Казахскія журналісты сабралі і прапанавалі на суд чытачоў падборку самых цікавых гарадскіх легендаў Цэнтральнай Азіі. Такіх, як, напрыклад, расповеды кіроўцаў з трасы «Бішкек — Ісык-Куль». Яны, маўляў, кажуць, што часта бачаць дзяўчыну ў чырвоным, якая галасуе на дарозе. Калі праехаць міма яе не спыняючыся, то яна будзе бегчы побач з машынай. Распавядаюць, што даўно на гэтай трасе таксіст жорстка забіў дзяўчыну, з тых часоў яе душа шукае свайго забойцу. Не менш цікавыя містычныя гісторыі звязаныя з некаторымі будынкамі. У Алматы мае кепскую славу кінатэатр «Казахстан», які ў 1950-я будавалі палонныя японцы. Тых, хто паміраў на будоўлі, маўляў, замуравалі ў сцены. Распавядаюць, што яшчэ доўга ў кінатэатры можна было пачуць абрыўкі японскай гаворкі, само па сабе ўключалася святло, а некалькі кінамеханікаў звар'яцелі пасля таго, як раптам сам пачынаў працаваць кінапраектар. А вось жыхары казахстанскага Джалал-Абада, якія жывуць насупраць дзвюх магілак — мусульманскіх і хрысціянскіх, наадварот, распавядаюць пра тое, што прывіды ім вельмі дапамагаюць: даглядаюць дзяцей, вяртаюць згубленыя рэчы і гэтак далей.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Эколагаў — не пускаць!

Баварская партыя ініцыявала незвычайную прапанову. Баварцы патрабуюць ад зямельных уладаў забараніць уезд у край Роберту Хабеку — лідару нямецкай федэральнай партыі «Зялёныя». Як лічаць аўтары ініцыятывы, забарона на візіт для эколага цалкам лагічная, паколькі апошні рэгулярна паклёпнічае на баварцаў. Сапраўды, Хабек неаднаразова крытыкаваў кансерватызм жыхароў Баварыі, якія традыцыйна галасуюць за правыя партыі. Ён нават казаў, што дэмакратыя з'явіцца на гэтай зямлі толькі пасля таго, як правыя згубяць дэпутацкую большасць. Неяк Хабек дазволіў экспромт пра тое, што любы егіпцянін для яго больш прывабны, чым баварац. З іншага боку, згаданыя словы Хабека тычацца толькі часткі жыхароў рэгіёну. Інакш бы эколага не запрасілі ў адну з баварскіх камунаў на мясцовае свята. Сарваць гэты візіт і вырашылі ў Баварскай партыі. Праўда, хутчэй за ўсё, на гэтым дэмарш і скончыцца. Не толькі таму, што забарона на ўезд у зямлю ФРГ для яе грамадзяніна — прававы нонсэнс. Справа і ў тым, што Хабека называюць без пяці хвілін наступным канцлерам ФРГ. Цяперашні кабінет Ангелы Меркель знаходзіцца на мяжы падзення, а фаварытам магчымых пазатэрміновых выбараў лічацца якраз «Зялёныя».

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПАКІСТАН. Долар — шлях у пекла?

Цікавы падыход для барацьбы з інфляцыяй нацыянальнай валюты прыдумалі ў Пакістане. Група мясцовых ісламскіх аўтарытэтаў выдала фатву наконт стаўлення ісламу да долараў ЗША. Прэса не паведамляе, ці была прынятая заява пад ціскам ураду, аднак і такая версія мае месца. Апошнім часам прэм'ер Імран Хан і яго міністры намагаюцца неяк стабілізаваць курс пакістанскай рупіі, якая за апошні тыдзень прасела на 20 працэнтаў. Для нармалізацыі сітуацыі трэба, каб пакістанцы перасталі набываць долары. Паколькі звычайныя аргументы не працуюць, было вырашана падключыць ісламскі клір. Мухамед Такі Усмані, самы вядомы святар у краіне, заявіў, што «купля долараў для запасаў або спекуляцыя на курсах валюты з'яўляецца цяжкім грэхам і здрадай радзіме ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі». Зрэшты, нягледзячы на праблемы, якія нясе наяўнасць у прававернага запасу долараў, пакуль збіць ажыятаж вакол пакістанскіх абменнікаў не ўдалося.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Галасуй за шаурму!

Тыдня не праходзіць, каб ва Украіне нейкая мясцовая зорка не заявіла пра паход у вялікую палітыку. Сваю партыю пад назвай «Голас» ужо заснаваў рок-музыка Святаслаў Вакарчук. Пра мандат дэпутата марыць аксакал украінскага эстраднага цэха Віктар Паўлік. Вельмі рэзанансным аказаўся анонс аб сыходзе ў палітыку спявачкі Вольгі Паляковай. Яна вырашыла будаваць жаночую «Партыю Вольгі Паляковай», абрэвіятура якой па-руску гучыць як ПОПА. Праўда, як пагаджаюцца ў сеціве, такая назва толькі спрые рэкламе праекта. Вырашылі не адставаць ад трэнду і майстры-кулінары. Днямі Яўген Клапаценка, пераможца шоў «Майстар-шэф», заклікаў стварыць партыю «Сведкі шаурмы», якая, думаецца, таксама прыцягне ўвагу. Справа ў тым, што раней Зяленскі назваў шаурму абавязковым складнікам антуражу Кіева, што абурыла апазіцыю. У сваю чаргу, аматары «Зе» пачалі дэманстратыўна наведваць кропкі з шаурмой, у меню якіх, дарэчы, з'явілася новая прапанова — шаурма «прэзідэнцкае комба». Сумнымі наступныя ўкраінскія выбары дакладна не будуць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**




Фота AP / Sadayuki Mikami

# Цяньаньмэнь праз 30 гадоў

**Свет узгадвае 30-ю гадавіну задушэння пратэстаў на пекінскай плошчы Цяньаньмэнь. Ноч на 4 чэрвеня 1989 года, магчыма, стала падзелам не толькі кітайскай, але і сусветнай гісторыі.**

Некаторыя кажуць — тры ста. Іншыя — чатырыста. 2,6 тысячы — аўтарытэтна сцвярджае «Wall Street Journal» са спасылкай на крыніцы ў кітайскім Міністэрстве аховы здароўя. Мільён — заяўляюць на расійскім тэлебачанні. Дасюль ніхто не ведае дакладную колькасць забітых і параненых падчас разгону пратэстоўцаў на плошчы Цяньаньмэнь.

Ніхто не чакаў такой крывавай развязкі падзей, якія стыхійна пачаліся 15 красавіка. У гэты дзень нечакана памёр былы генсек ЦК КПК Ху Яабан, які публічна падтрымліваў асцярожную лібералізацыю ў краіне. Людзі, якія хацелі ўшанаваць памяць памерлага, сталі сцякацца на галоўную плошчу Пекіна. Там жа было вырашана рабіць такія сустрэчы рэгулярнымі.

Магчыма, на такіх мітынгах усё і скончылася б. Аднак нечакана 27 красавіка вядучы партыйны орган «Народная газета» спарадзіў артыкул, у якім удзельнікаў сходаў на Цяньаньмэнь назвалі аб'ектамі маніпуляцыі. Сто тысяч студэнтаў на знак пратэсту супраць публікацыі пайшлі ў цэнтр сталіцы. Там жа 13 траўня каля сотні студэнтаў пачалі галадоўку, высунуўшы ў тым ліку палітычныя лозунгі — шырокія дэмакратычныя рэформы.

У ідэйным плане пекінскі Майдан быў вельмі стракатым. Спантанныя выступы атрымалі масавую падтрымку праз рэзкае пагаршэнне сацыяльнай сітуацыі. Увесну 1989-га пачаўся новы віток інфляцыі, які прымусіў шматлікіх кітайцаў зацягнуць паясы. Прычынай эканамічнага пагаршэння лічылі эканамічную лібералізацыю, якую Дэн Сяапін запусціў у 1978-м. Таму на пекінскім Майдане спявалі «Інтэрнацыянал» і сумавалі па часах Маа Цзэдуна. Але ўсе праграмныя супярэчнасці нівеляваў дух салідарнасці.

Так ці інакш, першы бой плошча выйграла — улада не рашылася разагнаць натоўп адразу. Гэтаму спрыяла адсутнасць адзінства ў кіраўніцтве Кампартыі. Большасць сябраў ЦК выступала за сілавы сцэнар, аднак была вымушаная даць шанец тым, хто верыў у дыялог. Скоўваў «ястрабам» рукі і хуткі травеньскі гістарычны візіт у Пекін Міхаіла Гарбачова. Разгон студэнтаў напярэдадні візіту мог мець самыя непрадказальныя наступствы. Нарэшце, была першая асцярожная спроба ўвесці войскі ў цэнтр гораду 19 траўня, якая правалілася праз сабатаж некаторых афіцэраў.

Фінальны хапун даваўся адкласці, чым адразу скарысталася вуліца. Хутка пратэсты выйшлі за межы сталіцы. У больш чым 80 гарадах пачаўся рух салідарнасці з Цяньаньмэнь, які абапіраўся ў тым ліку на камітэты на прадпрыемствах, якія па сутнасці ўяўлялі паралельную ўладу. З'явіліся ўсе адзнакі таго, што называецца «дэмантаж сістэмы». Адзін з функцыянераў метафарычна параўноўваў сітуацыю, што склалася напрыканцы траўня, са скаканнем на тыгры: сядзець на ім небяспечна, але спусціцца яшчэ больш небяспечна.

Трывожныя справаздачы з месцаў далі ў ЦК перавагу аматарам сілавога сцэнару, і 2 чэрвеня Дэн Сяапін загадаў войску рушыць у Пекін. Аднак праз моцны вулічны супраціў вайскоўцы здолелі прарвацца на Цяньаньмэнь і зачысціць плошчу толькі праз два дні. Прыкладна ў той жа дзень былі лакалізаваныя ўсе ачагі пратэсту ў правінцыі. Мяцеж быў утаймаваны.

Праз 30 гадоў пасля апісаных падзей амаль усе згодныя, што пачатак чэрвеня 1989-га аказаўся падзеяй-мяжой у гісторыі Кітаю. Прывід пратэстаў таго года дасюль пераследуе мясцовых чыноўнікаў. Адразу пасля разгону плошчы ў партыі адбылася чыстка ўсіх, хто спрабаваў шукаць кампраміс са студэнтамі. Былі ўзмоцненыя і мадэрнізаваныя сілавы блок і спецслужбы. Каб не дапусціць рымейку 1989-га, быў узяты курс на будаўніцтва паліцэйскай сістэмы, якая дазволіць выяўляць незадаволенасць у грамадстве на самых пачатковых фазах, пакуль яна не набыла характару масавага пратэсту.

Па ходзе рэалізацыі гэтай установкі паўстала самая развітая ў свеце мадэль цэнзуры і кантролю над інфармацыяй. У КНР пад забарону трапілі замежныя пошукавікі, інфармацыйныя сайты і платформы сусветных сацыяльных сетак.

У тым ліку кітайскія ўлады намагаюцца фільтраваць і ўспаміны пра вясну 1989-га. Афіцыёз імкнецца не кранаць гэтую балючую тэму. Калі ж замоўчваць пытанне не атрымліваецца, чыноўнікі або спікеры Пекіну апраўдваюць рэпрэсіі поспехамі кітайскай эканомікі на працягу апошніх 30 гадоў. Маўляў, калі б не рашучыя дзеянні камуністаў, краіне было б не пазбегнуць хаосу, а сотні мільёнаў кітайцаў дасюль жылі б у галечы.

Гэты тэзіс, дарэчы, імпартавалі некаторыя расійскія публіцысты, якія намагаюцца параўнаць Цяньаньмэнь і савецкую Перабудову. Сцвярджаецца, што перамога ГКЧП у жніўні 1991-га магла даць СССР шанцы на мадэрнізацыю, падобную на кітайскую. Што да заходняй публіцыстыкі, то там разглядаюць КНР пасля 1989-га як лабараторыю аўтарытарных і папуліцкіх рэжымаў, якія ўзніклі ў свеце пазней. Маючы перад сабой прыклад Кітаю, лідары гэтых рэжымаў зрабілі для сябе катэгарычную выснову: размовы і перамовы з апазіцыяй — гэта добра, аднак напрыканцы ўсё вырашае толькі гвалт.

Як бачым, у Пекіне ў 1989-м была задушаная свабода не толькі кітайцаў. Аднак гэта не адзіная спадчына кітайскай вясны. Тады ж, у цэнтры Пекіна, быў зроблены ўнікальны фотаздымак: чалавек, які заступае шлях калоне танкаў. Гэты здымак на ўсе часы стаў сімвалам супраціву рэпрэсіўнай уладзе. І пакуль гэты здымак будзе выклікаць эмоцыі, можна казаць, што Цяньаньмэнь, прычым, таксама глабальны, працягваецца.

# Мір пад манастыр

Алег НОВІКАЎ

**На карце Каўказа можа з'явіцца новая «гарачая кропка». Баку і Тбілісі не могуць падзяліць фрагмент сярэднявечнага храмавага комплексу.**



Фота www.sputnik-georgia.ru

Сутнасць канфлікту вельмі простая. Тое, што Грузія заўжды лічыла сваёй спрадвечнай тэрыторыяй і неад'емнай часткай манастырскага комплексу Давід-Гарэджы, у Азербайджане называюць «Кешыкчыдаг» і лічаць сваім дзяржаўным гісторыка-культурным запаведнікам. Сам жа комплекс, які ўяўляе сабой высечаныя ў скалах каля 20 манастыроў, знаходзіцца ў 60 кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Тбілісі і займае тэрыторыю працягласцю ў 25 кіламетраў.

Пры гэтым, нягледзячы на нестыкоўкі ў памежных пытаннях, за ўвесь час існавання абедзвюх дзяржаў атмасфера вакол храмаў была мірная. Азербайджанскія памежнікі прапускаюць хрысціянскі вернікаў.

Хмары на гарызонце пачалі збірацца напрыканцы траўня, калі грузінская грамадскасць даведалася пра намер азербайджанцаў правесці ў памежнай зоне аўтамабільнае ралі. Мерапрыемству папярэднічала праца дарожнай тэхнікі.

У колах грузінскіх нацыяналістаў вырашылі, што такая дарога да храму можа палепшыць пазіцыі Баку на перамовах па дэмаркацыі гэтай часткі мяжы.

З улікам таго, што некалькі спрэчных праваслаўных аб'ектаў знаходзяцца пад кантролем Баку, нават пачалі казаць, што да расійскай акупацыі Грузіі дадалася і азербайджанская. То-бок, трэба кідаць усё, ехаць у Давід-Гарэджы, стаць ля мяжы і гучна казаць: «Давід-Гарэджы — Грузія!»

Як вынік, на берагах Куры была агучаная мабілізацыя, і ў накірунку Давід-Гарэджы выправіўся дэсант актывістаў. Іх ваяўнічы настрой не замарозіў ні заклік грузінскага МЗС, ні зварот Праваслаўнай царквы. Абедзве структуры абвяргалі магчымасць тэрытарыяльных саступак з боку Грузіі. Актывісты прыбылі на мяжу, нейкі час патрулявалі яе з патрыятычнымі транспарантамі — і пасля вярнуліся дахаты.

Адначасова пытанне вынеслі ў парламент. Натуральна, было б цудам, калі б сітуацыяй не скарысталіся апаненты ўраду, які фармуе партыя «Грузінская мара». Больш за іншых піярыліся на памежнай тэме лейбарысты. Іх правадыр Шалва Нацелашвілі адразу знайшоў адказнага. «Бідзіна Іванішвілі (кіраўнік «Грузінскай мары») прадаў Давід-Гарэджы свайму бізнес-партнёру, прэзідэнту Азербайджана, алігарху Ільхаму Аліеву. Ідзе інтэнсіўная праца, каб гэтая найстаражытнейшая грузінская святыня канчаткова была акупаваная», — казаў ён. Апазіцыя таксама запатрабавала перапыніць перамовы і пасяджэнні камісіі па пытаннях дэмаркацыі мяжы, пакуль у перамовы не будуць прыцягнутыя ЕС і ЗША.

Праўладныя палітыкі і лаяльны сегмент інтэрнэту, у сваю чаргу, развіваюць думку пра тое, што апазіцыя фактычна працуе на Крэмль: канфлікт вакол храмавага комплексу на руку Маскве, якой даспадобы разборкі па лініі Баку—Тбілісі. Між тым, маскоўскія знаўцы пабачылі за ўсім руку дзядзькі Сэма.

«Ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць яшчэ адзін цікавы момант. Канфлікту папярэднічала тое, што адной з першых ініцыятыў прэзідэнта Саламе Зурабішвілі стала ідэя даць краіне сталыя межы. І перш за ўсё, з Азербайджанам. Тут памежная лінія з на 60–70 працэнтаў недэмаркаваная. У Баку вельмі неадназначна ўспрынялі яе прапанову, паколькі яна таксама паабяцала, што ўсе спрэчныя моманты будуць вырашаны на карысць Тбілісі.

**Хмары на гарызонце пачалі збірацца напрыканцы траўня, калі грузінская грамадскасць даведалася пра намер азербайджанцаў правесці ў памежнай зоне аўтамабільнае ралі. Мерапрыемству папярэднічала праца дарожнай тэхнікі**

Дарэчы, у Грузіі такую актыўную знешнюю палітыку прэзідэнта некаторыя ўжо палічылі парушэннем Канстытуцыі і пагражаюць заявай у Канстытуцыйны суд з перспектывай імпічменту.

Праўда, да імпічменту Зурабішвілі справа наўрад ці дойдзе, а вось пра абвастрэнне азербайджанска-грузінскіх адносін можна казаць ужо цяпер. Як і трэба было чакаць, у Баку вельмі агрэсіўна адрэагавалі на заявы грузінскіх радыкалаў. Прычым, часам занадта агрэсіўна. Напрыклад, навуковы савет Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Азербайджана мяркуе, што частка грузінскіх земляў з'яўляецца гістарычнымі азербайджанскімі тэрыторыямі, а сталіца Тбілісі «нясе ў сабе азербайджанскую культуру».

Цяпер абедзвюм каўказскім дзяржавам давядзецца някае заміраццa. На чэрвень запланаваны візіт кіраўніка парламенту Грузіі ў Баку, па выніках якога, думаецца, бакі нейк вернуцца да старога добрасуседскага фармату адносін. Таксама запланаваныя сустрэчы прадстаўнікоў грамадскасці абедзвюх краін. На крайні выпадак, можна запрасіць Міхаіла Саакашвілі, які 28 траўня заявіў пра гатоўнасць стаць мадэратарам на перамовах.

Што тычыцца лёсу Давід-Гарэджы, то ўсё залежыць ад вынікаў працы суменснай камісіі, сябрам якой будзе няпроста паразумецца. Праз ціск актывістаў магчымасці манёўру на перамовах вузкія. Экзальтаваная грамадскасць — як у Азербайджане, так і ў Грузіі — патрабуе ад дыпламатаў трымацца жорсткай лініі, хаця першапачаткова дапускалася ідэя зямельнай кампенсацыі за спрэчныя межы. На жаль, гэтая, як і любая іншая канструктыўная прапанова, цяпер будзе выклікаць выключна спекуляцыйныя інтэрпрэтацыі. Таму можна пагадзіцца з тымі палітолагамі, якія лічаць, што цалкам зняць напружанне ў Давід-Гарэджы ўжо не атрымаецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксей Навальны



Адзін з лідараў антыпуцінскай апазіцыі заявіў пра наяўнасць у яго каманды новай зброі, якая дапаможа разбурыць засілле «Адзінай Расіі», прынамсі ў Маскоўскай думе, якая будзе абірацца ўвосень.

Гаворка ідзе пра стварэнне цэнтра, куды можа звярнуцца любы незалежны кандыдат з просьбай дапамагчы сабраць яму подпісы, неабходныя для рэгістрацыі. Сапраўды, усе, хто сутыкаўся са зборам подпісаў, ведаюць, што гэта няпроста. Людзі неахвотна адчыняюць дзверы зборшчыкам, да таго ж і раздаваць свае пашпартныя дадзеныя ў наш час многія не гатовыя. У той жа час праўладныя адзінаросы лёгка збіраюць подпісы за кошт адміністрацыйнага рэсурсу.

І вось цяпер усе праблемы будуць вырашацца. Дастаткова звярнуцца да Навальнага — і вам (прычым бясплатна!) збяруць патрэбныя аўтографы грамадзян. Тэхнічна, дапамога будзе заключацца ў тым, што зборшчыкам подпісаў не трэба будзе бегаць за масквічамі — тых запросяць прыходзіць у адно месца праз створаныя людзьмі Навальнага інтэрнэт-рэсурсы.

Такім чынам, «адзінаросам» на выбарах будзе супрацьстаяць салідная група незалежных кандыдатаў. Хутка мы даведаемся, ці спрацуе такая формула: днямі мэрыя Масквы абвесціць пра пачатак выбарчай кампаніі — і цэнтр пачне працаваць.

### Дональд Трамп



Прэзідэнт ЗША выклікаў сярод прагрэсіўнай грамадскасці новую хвалю крытыкі. Усё праз рашэнне яго адміністрацыі не змяшчаць на грошах выяву Гарыет Табмен, што была вядомай змагаркай супраць рабства ў першай палове XIX стагоддзя.

Яшчэ ў часы Барака Абамы было запланавана змясціць выяву Гарыет на банкноце наміналам 20 долараў — замест партрэта Эндру Джэксана. Той, наадварот, будучы прэзідэнтам, лабіяваў інтарэсы рабаўладальнікаў.

Трампу гэтая ідэя не спадабалася, і яшчэ ў красавіку ён заявіў, што ў лепшым выпадку гатовы размясціць партрэт Гарыет Табмен хіба што на банкноце ў два долары. Сваё слова ён, у выніку, стрымаў. Днямі прадстаўнік дэпартамента фінансаў афіцыйна заявіў, што як мінімум да 2028-га ніякіх зменаў дызайну банкнотаў, у тым ліку наміналам у 20 долараў, не будзе.

Рашэнне Белага Дома абурыла афраамерыканскую камуну. Апазіцыя афіцыйна заявіла, што зменіць выгляд купюры, як толькі прыйдзе да ўлады. У сваю чаргу, кансерватыўная Амерыка вітае рашэнне Трампа. У тым ліку таму, што Гарыет Табмен мела падобныя на мужчынскія рысы твару. Выява на банкноце, падобнай на мужчыну асобы ў жаночай вопратцы, маўляў, па сутнасці была б прапагандай руху сексуальных меншасцяў.

### Садыбек Тугел



Кандыдат у прэзідэнты Казахстана ад руху «Арлы вялікага стэпу» быў найбольш заўважным сярод сямі кандыдатаў, якія на выбарах 9 чэрвеня мараць абрацца прэзідэнтам краіны.

Праўда, увагу ён прыцягнуў, хутчэй, праз эпатажныя ўчынкі і скандальныя прапановы. Напрыклад, ён заклікаў не дазваляць шлюбы казашак з іншаземцамі, забараніць продаж алкаголю, прымусіць усіх піць кумыс, увесці смяротнае пакаранне за карупцыю.

Зорным часам Садыбека сталі дэбаты кандыдатаў, якія ўпершыню прайшлі ў Казахстане. Садыбек Тугел прыйшоў у студыю ў традыцыйным казахскім кафтане і палохаў апанентаў пугай. Самым запамінальным момантам яго выступу стаў заклік закрыць усе начныя клубы і сауны ў Казахстане. «Гэта д'ябальскія месцы. Усё гэта штурхае моладзь на шлях распусты і дэградацыі, дае няправільнае выхаванне. Таму мы павінны з усім гэтым змагацца і зачыніць усе гэтыя шайтанскія месцы — начныя клубы, сауны і казіно», — сказаў ён.

З іншага боку, шанцы перамагчы ў яго невялікія. Асноўным фаварытам выбараў з'яўляецца Касым Такаеў — стаўленік Назарбаева і часова выконваючы абавязкі прэзідэнта. Няма сумневаў, што Такаеву намалююць на выбарах патрэбны працэнт. Што ж да Садыбека, то ён, хутчэй за ўсё, застанецца на палітычнай сцэне ў якасці мясцовага Жырыноўскага. Гэта адзіны кандыдат, бюджэт кампаніі якога папаўняўся за кошт унёскаў простых грамадзян.

# «Горад без айчыны»:



Алесь КІРКЕВІЧ

**Адна з памятных датаў для горада над Нёманам засталася цалкам незаўважанай. А менавіта — уваход у горад польскіх войскаў 27–28 красавіка 1919 года. Ад гэтых дзён можна адлічваць пачатак гісторыі міжваеннага Гродна, канец папярэдняй і пачатак новай эры.**



Жабрак у Гродне ў часы Першай сусветнай вайны



Прадавачка на рынку ў Гродне часоў Першай сусветнай вайны

Падчас нядаўняй дыскусіі «Горад без айчыны» гісторык Андрэй Чарнякевіч адзначыў, што ў кантэксце міжваеннага Гродна часцей за ўсё мы згадваем 1939 год: пра гэта знятыя фільмы, напісаныя кнігі і безліч артыкулаў, захаваліся ўспаміны і фота. Падзеі ж 1919 года цалкам выпалі з дыскусіі.

«Папярэдні свет — можа кепскі, можа не вельмі, — кануў у лету, — разважае Чарнякевіч. — Вайна змяніла ўсё, а што будзе далей — невядома. Усё, што адбываецца тут, у Гродне ў 1919-м — гэта гульня з лёсам і спадзяванне на тое, што для гораду і ягоных жыхароў ён будзе літасцівы, прынясе мір і лад. Адкуль будзе той лад? Хто яго гарантуе? Якая дзяржава зменіць Расійскую імперыю? Вось гэта пытанні!»

Гродна 100-гадовай даўніны — гэта горад без дзяржавы, населены людзьмі без дзяржаўных маркёраў, без лаяльнасці, стабільнасці і пачуцця абароненасці. Наўпрост разгубленыя, вымушаныя выжываць у тых абставінах, якія склаліся. Падаецца, што і сёння, калі ўсё часцей гучаць трывожныя галасы пра перспектыву страты дзяржаўнасці ды радыкальных зменаў, падзеі таго года ды эмоцыі сведкаў могуць быць цікавымі ды актуальнымі.

## Ланцужок прыходаў і сыходаў

Пачаць можна было б з цытаты Аркадзя Бухава, пісьменніка-сатырыка адэскай школы (накшталт Бабеля, Ільфа і Пятрова). На пачатку 1919 года ён быў лёсам закінуты ў Гродна і стаўся сведкам тутэйшых падзеяў. Праз год свае рэфлексіі Бухаў надрукаваў фельетонам «Нядаўнія ўспаміны» ў газеце «Эхо»:

«…Найперш з Гродна знікла яўрэйскае насельніцтва: знікла па экстранным намаганні добрых рускіх уладаў, якія, мабыць, лічылі, што тэрміновае высяленне яўрэяў зможа замяніць нястачу снарадаў і памылкі ў планах генеральнага штабу, — піша Бухаў пра пачатак вайны. — Пасля пачалі рабіць уцекачоў з мясцовых палякаў. Палякі з'ехалі, за імі пакінулі горад і чыноўнікі. Што ў горадзе засталося? Невядома. Кажуць, засталася армія, якая таксама адступіла. Здаецца, што з гораду было выселена і сышло ўсё, акрамя аднаго кульгавага краўца, які мне пасля і распавёў пра гэта».

Пасля Бухаў апісвае прыход немцаў. Ані слова пра вайсковыя дзеянні, выключна пабытавыя моманты, накшталт таго, што кайзераўцы прымусілі адрамантаваць ходнікі ды адлавілі бадзяжных сабак. Канец гаспадарання немцаў пісьменнік апісвае іранічна: «Пачакалі сваёй рэвалюцыі, троху пасядзелі і сышлі». Варта прывесці таксама ўражанні Бухава ад 1-га Беларускага палка, які ў Гродна стваралі Кастусь Езавітаў і Кіпрыян Кандратовіч:

«Пасля прыйшоў беларускі полк, які вельмі ўсцешыў усё мясцовае насельніцтва і скрайне перапужаў сялян-беларусаў, якія, паводле словаў аднаго майго знаёмага з іхнага серадовішча, скептычна наракалі: «Рускія былі — сышлі. Немцы прыйшлі — сышлі. Зараз яшчэ і беларусы прыйшлі… Нешта будзе».

Ну і, нарэшце, Бухаў апісвае прыход палякаў, яшчэ не ведаючы, што акурат яны будуць кіраваць горадам наступныя дваццаць гадоў: «Беларускі полк быў нядоўга, яго змянілі палякі. Яны адразу ж, насуперак сумненвам мясцовых жыхароў, адчулі сябе старажыламі і абвясцілі ўсё, што можна ахапіць вокам, спрадвеку польскім: і жыхароў, і дамы, і дрэвы, і нават шпакоў на даху…»

## У каго сіла — той і будзе «карэнным» гродзенцам

Мы падаем погляд не гродзенца, але чалавека на кароткі час звязанага з горадам, пазбаўленага сімпатыяў і не ўкаранёнага ў асяродак. З аднаго боку, бачна, што для Бухава Гродна — параўнальна спакойнае і ўтульнае месца, дзе можна перачакаць крывавыя падзеі тых гадоў. З іншага — сустракаем пералік уладаў, якія змяняюць адна адну: рускія, немцы, беларусы, палякі… пазней дададуцца бальшавікі.

Кожная з гэтых уладаў, мабыць, акрамя БНР, прэтэндавала на горад выключна з пазіцыяў мацнейшага. Маўляў, хто горад утрымае — той і будзе карэнным гродзенцам. У каго сіла — у таго і праўда, і ўлада, і горад. Жыхары ж апынуліся замкнёнымі ў горадзе-трафеі, які толькі чакаў моцнай рукі, якая яго падхопіць.

Цікава, што Гродна апынуўся ў падобнай нявызначанай сітуацыі ўпершыню ад часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Усё XIX стагоддзе, за выключэннем кароткай «навальніцы» 1812 года, горад пражыў у Расіі. Дарэчы ўзгадаць гістарычны анекдот: пасля падзелаў Прусія прэтэндавала на левабярэжную частку Гродна, але расійскі амбасадар не саступаў. Прусакі, урэшце, пайшлі на расійскія ўмовы, але, каб захаваць твар, нібыта «падарылі» Расіі частку горада. У адказ раз'юшаная Кацярына II загадала адпісаць немцам: «Нам не могуць падарыць тое, што нам належыць па праву».

Вяртаючыся да нашых падзеяў, варта ўзгадаць, што ў пэўным сэнсе Гродна быў адным з апошніх пунктаў у Беларусі, дзе скончылася Першая сусветная вайна: нямецкія войскі стаялі тут да апошняга, ратуючы горад і яго жыхароў ад анархіі. З немцамі ўсё ясна, — яны акупанты, Гродна паводле іх планаў уваходзіў у Обер-Ост. Хто ж прыйшоў пасля ды назваў горад сваім? Хто «акупант», а хто — «вызваліцель»?

## Ад нямецкіх кулямётаў да палітычнага плюралізму

Калі пацікавіцца гістарыяграфіяй на тэму, то тэрмін «акупанты» — дакладны маркёр пазіцыі аўтара. Калі пішуць «палякі акупавалі Гродна» — значыць, аўтар, найхутчэй, трымаецца постсавецкай традыцыі. Калі «палякі занялі/вызвалілі» — значыць, прапольскай альбо нейтральнай.

**Наш горад знаходзіцца ў стане поўнага разброду. У нас ёсць польскі, беларускі, яўрэйскі і часовы гарадскі камітэт. У нас адсутнічае, аднак, пэўная ўлада, якая б выказвала волю ўсяго насельніцтва і карысталася б у яго аўтарытэтам...**

Чым, урэшце, для Гродна быў Беларускі полк, які, хай і фармальна, але падпарадкоўваўся Літве? Як дзялілі ўладу Губернскі камісарыят ды Цэнтральная беларуская рада Гродзеншчыны? І ці варта казаць у прынцыпе пра манаполію на цывільную ўладу?

Калапс упраўлення, які пачаўся ў 1915 годзе, далей, нібы эстафета, перадаваўся ад улады да ўлады. Немцы да канца 1918-га неяк стрымлівалі анархію з дапамогай кулямётаў. Менавіта ў Гродне напрыканцы 1918-га апынуўся нямецкі генерал Эрых фон Фалькенхайн, апошні камандуючы 10-й арміяй. Ён кіраваў адыходам немцаў з Украіны і Беларусі. Цікавостка ў тым, што Фалькенхайн быў адным з пачынальнікаў Вялікай вайны ды ініцыятарам выкарыстання атрутных газаў… Тут жа ён да апошняга бараніў парадак і стрымліваў хвалю рэвалюцыі з Усходу.

Крызіс улады справакаваў яшчэ адзін цікавы феномен — палітычны плюралізм. Ніколі перад гэтым, ніколі пасля (хіба да часоў Перабудовы), горад не адчуваў такога ўздыму дэмакратыі, як у апошнія месяцы нямецкай акупацыі. У лютым 1919-га адбываліся самыя дэмакратычныя выбары ў органы мясцовага самакіравання, у праўленне яўрэйскай гміны, у саветы рабочых дэпутатаў. Да гэтага дадаліся яшчэ розныя нацыянальныя камітэты, якія ладзілі з'езды: адных беларускіх прайшло некалькі. Урэшце з'явіліся новыя газеты і свабода слова. Нагадаем, што фармальна ўсё гэта рабілася пад акупацыяй!

У гісторыі не аднойчы здаралася, калі ўслед за крызісам улады спачатку ідзе плюралізм, выбары і дэмакратыя, але пазней — анархія і гвалт. Нядаўні прыклад — распад СССР, які прынёс свабоду, а пазней — «ліхія 90-я»… Урэшце, перапужаныя гродзенцы ў 1919-м былі не столькі зацікаўленыя ў дзяржаўнай прыналежнасці альбо гістарычнай справядлівасці, колькі ў захаванні жыцця і маёмасці, аднаўленні «нармальнасці» за любы кошт.

## «Гібрыдная вайна» — бальшавіцкая стратэгія

У гэтых умовах бальшавізм і савецкая ўлада выглядалі таямніча і загадкава, як нешта, чаго яшчэ ніколі не было, як альтэрнатыва нацыянальным праектам. Формула рэалізацыі ўлады бальшавікоў вядомая і сёння — гэта тая ж самая «гібрыдная вайна». Спачатку на

# Гродна ў 1919 годзе

тэрыторыю, занятую немцамі, прыбываюць бальшавіцкія агенты. Яны пачынаюць інфармацыйную «накачку» насельніцтва з дапамогай улётак, газетаў і зваротаў. Пазней — назапашванне зброі і стварэнне вайсковага падполля.

Цікава, што на пачатку 1919-га бальшавікі ў Гродне мелі на руках прыкладна столькі ж зброі, колькі і 1-шы Беларусі полк. Урэшце, перад прыходам асноўных частак чырвоных, мусіў адбыцца пераварот... У горадзе над Нёманам, здаецца, усё ішло паводле плану, але перавароту так і не адбылося: занадта моцная канкурэнцыя паміж рознымі сіламі. Як вынік, савецкая ўлада ў горад прыйшла адно ў ліпені 1920-га на штыках чырвонаармейцаў.

## «Чалавек са стрэльбай» як герой часу

Крызіс улады ў горадзе агулам выліўся ў хвалю злачынстваў: «Эксцэсы бандытызму з'яўляюцца прадуктам безуладдзя, — пісала на пачатку 1919-га мясцовая газета «Наше утро». — Бандытызм — непазбежны вынік пералому і пераходнага часу». Што гэта за праявы? Грабяжы, згвалтаванні, забойствы... Але адзін выпадак надзвычай характэрны.

Гісторыя адбылася ля мястэчка Азёры на поўнач ад Гродна. Два селяніна ішлі па шляху, ім насустрач — брычка з вяселля. У ёй маладыя — яўрэі. У аднаго з сялянаў, магчыма былога вайскоўца, пры сабе апынулася стрэльба. Сустрэўшыся, ніхто нікому нічога не кажа, сяляне ідуць далей, брычка едзе. Раптам узброены дзядзька моўчкі разварочваецца, цэліць і страляе. У выніку — забівае дзяўчыну з брычкі, нявесту.

У горадзе і ваколіцах яшчэ пануюць немцы. Селяніна арыштоўваюць і допытваюць. Адбываецца цалкам бязглуздая размова: «Што насамрэч адбылося? Можа нехта кагосьці абразіў ці ведаў да гэтага? Навошта страляў?» Селянін адказвае адмоўна на ўсе пытанні і толькі на апошняе выдае следчаму: «Хацеў стрэліць».

Мабыць, гэты момант і ёсць квінтэсенцыяй гвалту, які вітаў у паветры. Усё склалася: зброя, ахвяра і чалавек, які «хацеў стрэліць». Між іншым, зброі на руках у насельніцтва поўна, нагодаў стрэліць — безліч. Адсутнасць пэўнай улады стварае шмат опцыяў для пасіянарыяў... Збіраюцца рабочыя дружыны, польская самаабарона, беларускі полк, бальшавіцкія арганізацыі, не кажучы пра крымінальныя групоўкі. Кожны можа далучыцца і знайсці сябе ў гэтым. Так гвалт стае адным з элементаў паўсядзённасці.

## Паддашша ці склеп — дзе хавацца?

Безумоўна, найбольш крыві лілося падчас вайсковых дзеянняў. А гэта ліпень і верасень 1920-га, калі польска-савецкі фронт спачатку адкаціўся на захад, пасля — вярнуўся на ўсход. Акурат у Гродне тады ішлі крывавыя баі, сведкам якіх стаў ужо знаёмы нам Аркадзь Бухаў:

«...Нехта меўся хлопнуць дзвярыма, а нехта гэтыя дзверы адчыніць. Кажучы простай мовай, бальшавікі хацелі ўзяць Гродна, а палякі не хацелі сыходзіць. Для мірнага насельніцтва гэта значыла, што адны будуць біць перад сыходам, а іншыя — пасля прыходу. Адзін з мясцовых «стратэгаў», уласнік бакалейнай лаўкі, даводзіў мне, што неабходна адно ўлічыць момант:

— Калі будуць сыходзіць, кожны мае пайсці на паддашша.

— Навошта?

— Ён яшчэ пытаецца «навошта»? Каму будзе ахвота рабаваць на паддашшы, калі тое можна зрабіць на першым паверсе? Затое, калі будуць прыходзіць, трэба лезці ў склеп.

— А гэта навошта?

— Ён яшчэ не разумее... Хто ж палезе рабаваць у склеп, калі тое можна зрабіць на другім паверсе?»

Далей Бухаў піша, што ягоны суразмоўца ўсё ж недааценіў энергіі і працаздольнасці тых, хто сыходзіў і прыходзіў: рабавалі і на паддашшы, і ў склепе, і на ўсіх паверхах. «Гэта была добрасумленная, хораша выкананая праца», — рэзюмуе пісьменнік.

## «Абы не было вайны»

У ліпені-жніўні 1920-га, пасля ўзяцця гораду бальшавікамі, партработнікі пачалі збіраць паперы і дакументы пра факты гвалту, які палякі ўчынялі ў дачыненні да яўрэяў. Вырваныя бароды, заколатыя штыкамі



Немцы ў Гродне, Першая сусветная вайна

ахвяры з далучанымі фотаздымкамі... Збіралі, зразумела, для прапагандысцкіх мэтаў, каб пазней выдаць у брашурах, арыентаваных, найперш, на замежнага чытача. Для чаго гэта рабілася?

Зразумела, што польскія жаўнеры наўрад ці былі больш жорсткімі за чырвоных кавалерыстаў корпусу Гая. Для Бухава і ягоных суразмоўцаў — абое рабое. Наўпрост у момант крызісу ўлады адным са спосабаў набыцця легітымнасці стае «чорны піяр» ворага. Маўляў, вораг заўжды больш крывавы, таму і вайна з ім — шляхетная справа.

Галоўны матыў у мясцовай тагачаснай прэсе: «абы не было вайны». Часам нам падаецца, што гэты пасыл — спадчына 1990-х гадоў альбо навязаны аднекуль зверху, але відавочна, што нешта падобнае заўсёды адчувае грамадства, пазбаўленае ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. У такой сітуацыі кожная опцыя, якая дала б моцную стабільную ўладу, стае прымальнай. Вось, скажам, што пісала газета «Наше утро»:

«У плане грамадска-прававога жыцця наш горад знаходзіцца ў стане поўнага разброду. У нас ёсць польскі, беларускі, яўрэйскі і часовы гарадскі камітэт. У нас адсутнічае, аднак, пэўная ўлада, якая б выказвала волю ўсяго насельніцтва і карысталася б у яго аўтарытэтам. А між іншым, час не чакае, бо падзеі ідуць наперад шалёным тэмпам. Бліжэйшым часам можа прыйсці момант, калі мы будзем прадстаўленыя самі сабе...»

Вось гэтае «самі сабе» дыхае роспаччу і адчаем, гэта ці не самае страшнае, што толькі можа здарыцца. Сітуацыя Гродна, канешне ж, не ўнікальная: некаторыя сібірскія альбо ўкраінскія гарады мянялі ўладу па 5–7 разоў, а можа і болей. Але ўсё гэта непазбежна адбіваецца на штодзённым жыцці ды эканоміцы рэгіёну.

## Мадэрнізацыя «па-нямецку»

Напярэдадні Вялікай вайны, у 1914–1915 гадах, горад паражываў эканамічны ўздым. Расійская імперыя ўклала вялікія грошы ў пабудову крэпасці і фартоў вакол Гродна, якія «залатым дажджом» праліліся і на ягоных жыхароў. Ішла перапланіроўка, паўстала шмат новых будынкаў, яшчэ больш вуліц былі аздобленыя брукаванкай. Тады расійскія ўлады не паспелі пабудаваць хіба каналізацыю — гэта зрабілі ўжо палякі ў 1930-х.

З пачаткам вайны пайшоў моцны адкат назад: росквіт змяніўся дэградацыяй. Цікава, што сярод іншага, перастала працаваць асенізацыя... Зрэшты, немцы падыходзілі да эканомікі прагматычна: напрыклад, пачалі дабываць мінеральную ваду, дабудавалі яшчэ адну воданапорную вежу. Падобны падыход кайзераўцы практыкавалі і ў іншых гарадах: разам з імі ў Навагрудку, напрыклад, з'явілася электрычнасць і вузкакалейка.

Мадэрнізацыя па-нямецку мела і іншы бок. Адступаючы, немцы знішчалі ці спрабавалі прадаць створаную імі ж інфраструктуру. У Гродне такім чынам знікла, напрыклад, мармеладная фабрыка. А яшчэ ў часы акупацыі гродзенцы ўпершыню пазнаёміліся з сістэмай картак. Карткі ў прынцыпе з'яўляюцца прыдумкай Першай сусветнай вайны, імі карысталіся ці не ўсе ўдзельнікі. Дзе карткі — там чэргі па ежу ды барацьба за выжыванне...

## Знайсці беларусаў у Гродне і Вільні

Вайна — гэта яшчэ і вялізныя дэмаграфічныя змены. Паводле перапісу 1914 года, у Гродне (разам з гарнізонам) жыло 56 тысяч чалавек. Большасць — яўрэі. Зусім хутка колькасць зменшылася больш як на палову: паводле нямецкага перапісу 1916-га — ужо 24 тысячы. Цікавы, у тым ліку, этнічны склад. Немцы фіксавалі яго не паводле мовы, але паводле нацыянальнасці. Беларусы на апошнім месцы — 400 чалавек, палякаў было 7,5 тысячы, яўрэяў — 15 тысяч.

І тут варта памятаць, куды хто падзеўся: адток насельніцтва стаў вынікам прымусовай эвакуацыі. Вядомы допіс генерала Фалькенхайна, які «не знайшоў» беларусаў ані ў Гродне, ані ў Вільні. А як можна разглядаць у якасці партнёраў ці сваіх пераемнікаў на акупаваных тэрыторыях тых, каго «няма»?.. Таму немцы далей і не шукалі, разглядаючы ў якасці гульцоў літоўцаў, палякаў ды бальшавікоў.

Горад стаў фактычна транзітным: спачатку, у 1915-м, людзі масава з'язджалі ў бежанства, у 1918-м — вярталіся. Тады ж дадалася і новая хваля бежанцаў: тыя, хто бяжыць ад бальшавікоў з усходу. Разам з перасоўваннем фронту ў 1919–1920-м гэтыя ж падзеі паўтараюцца яшчэ некалькі разоў... У дадатак з нямецкага палону вярнуліся былыя жаўнеры імператарскай арміі. Горад стаў падобным не да месца, дзе жывуць, але да пункту, дзе праводзяць час.

Усё гэта варта асэнсоўваць хаця б для таго, каб зразумець, што выбар дзяржаўнай прыналежнасці для гродзенцаў (якія, па вялікім рахунку, мала што вырашалі) быў свайго роду латарэяй, а не свядомым асэнсаваным рашэннем. На наступныя 20 гадоў Гродна апынуўся ў складзе Польшчы, а не БНР ці Літвы, не праз глыбокія патрыятычныя памкненні ці гістарычныя сімпатыі жыхароў, але паводле «права моцнага», прагі спакою і «нармальнасці».

**У матэрыяле выкарыстаныя фота з прыватных архіваў, у тым ліку з калекцыі Фелікса Варашыльскага**



Немцы ў Гродне, Першая сусветная вайна



Польскія войскі ў Гродне, красавік 1919 года

# БагатаДата



**Вось якія юбілеі і круглыя даты чакаюць вас на наступным тыдні.**

### 8 чэрвеня

**1934.** Пачаўся I Усебеларускі з'езд пісьменнікаў, на якім арганізацыйна афарміўся створаны некалькімі гадамі раней Саюз беларускіх пісьменнікаў. Першым яго старшынёй быў Міхась Клімковіч, аўтар словаў гімна БССР «Мы, беларусы».

### 9 чэрвеня

**1919.** У Залатаношы, што ў Чаркаскай вобласці Украіны, нарадзіўся савецкі шахматыст, прэтэндэнт на сусветнае першынства Ісаак Балясласлаўскі. З 1951 года жыў у Беларусі. Дапамог як секундант Тыграну Петрасяну стаць чэмпіёнам свету. Быў старшым трэнерам зборнай СССР па шахматах, распрацаваў шраг сістэмаў у сіцыліянскай і стараіндыйскай абаронах. Памёр у Мінску.

**1949.** У вёсцы Цёмнае Балота (цяпер Сасновы Бор), што ў Шчучынскім раёне на Гродзеншчыне, нарадзіўся тэкстолаг, крытык, літаратуразнаўца Віктар Дарашкевіч. Падрыхтаваў да друку паэму «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага і каментары да яе. Пераклаў «Слова пра паход Ігараў» ды выказаў ідэю, што аўтарам гэтага твора быў хтосьці з Полацкага княства.

### 10 чэрвеня

**1919.** У вёсцы Хляўно Кармянскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся паэт Авяр'ян Дзеружынскі. Многія яго вершы пакладзеныя на музыку. Напрыклад, «Мінскі вальс», «Песня аб Мінску», «Мяцеліца».

### 11 чэрвеня

**1959.** У вёсцы Танежыцы Слуцкага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся бізнесовец і дэпутат Вярхоўнага Савета, удзельнік імпічменту Уладзімір Кудзінаў. Пасля спробы імпічменту датычна яго фірмы пачаліся праверкі, яе будынак адышоў у дзяржуласнасць, а самога Кудзінава асудзілі нібыта за хабар. Пасля вызвалення ў 2001 годзе ён з'ехаў у Крым, дзе наладзіў новы бізнес.

### 12 чэрвеня

**1934.** Адкрыўся мінскі стадыён «Дынама». На трыбунах змяшчалася 10 тысяч чалавек. Пасля разбурэння падчас Другой сусветнай вайны аднойлены да 1954 года ў разліку на 35 тысяч чалавек. Да Алімпіяды–1980 стадыён зноў рэканструявалі: на трыбунах маглі сесці 50 тысяч заўзятараў. У 1999-м лавы замянілі на сядзенні — і колькасць гледачоў скарацілася да 34 тысяч. Апошняя рэканструкцыя скончылася ў 2018 годзе: цяпер «Дынама» змяшчае 22 тысячы балельшчыкаў.

### 13 чэрвеня

**1889.** У вёсцы Цяцераўка Капыльскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся Павел Жаўрыд, адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Арыштаваны ДПУ БССР у 1930 годзе і асуджаны да 5 гадоў лагераў, зноў арыштаваны ў 1937-м — і неўзабаве ў лагеры памёр.

### 14 чэрвеня

**1894.** Ва ўкраінскім Жытоміры нарадзіўся Ян (сапраўднае імя — Якаў) Гамарнік. У 1928–1929 гадах працаваў першым сакратаром ЦК КПБ Беларусі, падтрымліваў калектывізацыю. У траўні 1937 года Гамарніка знялі з пасады начальніка Палітупраўлення РСЧА — Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, а праз паўтара тыдні ён застрэліўся ў Маскве напярэдадні немінучага арышту па «справе Тухачэўскага».

**1939.** У расійскім Камсамольску-на-Амуры нарадзіўся народны артыст Беларусі, акцёр Купалаўскага тэатра Арнольд Памазан. Найбольш вядомыя яго ролі: Адольф Быкоўскі («Паўлінка»), Чарнавус («Хто смяецца апошнім»), Навум Прыгаворка («Ідылія»), Эгей («Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета»), Поп («Тутэйшыя»), у камедыйным фільме «Свежына з салютам».

**1959.** У Таджыкістане нарадзіўся беларускі раварыст, алімпійскі чэмпіён і чэмпіён свету ў камандны гонцы Валерый Моўчан.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# «Еўрапейскі выбар» для Беларусі: Рух «За Свабоду» запрашае моладзь у летнюю школу

Вольга БЫКОЎСКАЯ

**Маладыя беларусы, якім няўтульна ў сваіх універсітэтах, і для якіх мала тых ведаў, што ім даюць выкладчыкі, атрымаюць магчымасць павучыцца ў Беластоку.**

### Летняя школа: хто і чаму вучыць

Ужо дзявяты год запар Рух «За Свабоду» арганізуе школы. Звычайна яны праходзяць у Літве ці ў Польшчы (Вільне, Варшаве, Тракаі, Беластоку). Удзельнікі — актыўныя маладыя беларусы (18–30 гадоў).

Агульная тэма школы ў гэтым годзе — «Еўрапейскі выбар». Студэнты даведаюцца пра адрозненні выбарчых сістэмаў, значэнне і асаблівасціназірання за выбарамі, тэхналогіі выбарчых кампаній. Акрамя тэарэтычнай часткі, выпускнікі будуць мець магчымасць прайсці практыку ў якасці назіральнікаў на выбарах або ў камандах кандыдатаў у дэпутаты.

«Летняя школа заўсёды праходзіць на самым высокім узроўні. Сярод выкладчыкаў школы лепшыя эксперты сваёй сферы як з Беларусі, так замежжа. Для моладзі ўдзел у школе з'яўляецца ўнікальнай магчымасцю адкрыць для сябе новыя аспекты сацыяльнага, палітычнага і эканамічнага жыцця краіны, пазнаёміцца з замежным вопытам, знайсці сяброў ды аднадумцаў, а таксама рэалізаваць свае здольнасці, ідэі і атрыманыя веды», — адзначыў дырэктар школы, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Кірыл Стаселька.

У гэтым годзе навучанне пройдзе ў два этапы: першы — тры рэгіянальныя школы ў Беларусі (Гродна — 29–30 чэрвеня, Магілёў — 6–7 ліпеня, Віцебск — 13–14 ліпеня), другі — у Польшчы (Беласток — 2–7 жніўня).

**Хто выкладае.** Сярод выкладчыкаў беларускай сесіі будуць гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў, эканаміст Сяргей Чалы, палітолаг Алесь Міхалевіч, паэтка Валярына Кустава і іншыя.

«Па выніках удзелу ў рэгіянальных школах будзе абраная група, якая працягне навучанне на беластоцкай сесіі, дзе, акрамя беларускіх выкладчыкаў, выступяць замежныя эксперты, можна будзе сустрэцца з польскімі чыноўнікамі, наведаць шраг установаў», — дадае Стаселька.

**Умовы.** Навучанне бясплатнае, арганізатары забяспечваюць праезд і пражыванне для ўсіх узроўняў школы і дапамагаюць з візавай падтрымкай (для ўдзельнікаў польскай сесіі).



**Як патрапіць:** рэгіструйцеся тут http://bit.ly/szkolarzs2019 да 15 чэрвеня ці звaніце дырэктару школы Кірылу Стасельку (+375447140209).

### Чым адметная Школа і каму варта падаваць заяўкі — гавораць студэнты

«Школа будзе карысная тым, хто шукае новыя знаёмствы, асабліва з аднагодкамі, якія цікавяцца гісторыяй, палітыкай і эканомікай Беларусі, а таксама хоча атрымаць адказы на свае пытанні ад спецыялістаў», — распавёў Ягор, які быў студэнтам школы ў 2018 годзе.

Людзі і атмасфера — вось што адрознівае школу Руху «За Свабоду», кажа Раман. Ён з задавальненнем бы паўтарыў досвед навучання.

«Мяне ўразілі сустрэчы і візіты ў дзяржаўныя ўстановы Польшчы, а дакладней, стаўленне да нашай групы: усё было на дастойным узроўні. Атрымалася простая размова, дзе чалавек вышэй за цябе па пасадзе, але не адчуваецца гэты погляд «зверху ўніз». Апынуцца ў зале Сейму і Сенату і пабачыць адкрытасць гэтых установаў таксама было вельмі прыемна», — прыгадала Таццяна.

Вельмі пашанцавала з камандай, дадала яна, якая атрымалася такая неверагодная, разнастайная, кожны своеасаблівы і цікавы як асоба. «Прыемна было бавіць час і пражываць гэтыя моманты. Дарэчы, пяць дзён прайшлі нібыта месяц, і адразу пасля заканчэння гэтага моцна не хапала», — адзначыла дзяўчына.

«Чаму варта падавацца на школу? Таму што там адчуваецца галоўнае — еднасць, праз усе размовы, пытанні, інтэлектуальныя гульні ты адчуваеш свабоду думак і словаў, моц словаў іншых. Таксама ты атрымаеш магчымасць сустрэцца з людзьмі, якія не толькі раскажуць свой погляд на нейкую тэму, але пакажуць, як гэта выкарыстаць на справе», — распавяла Ружа.

**Каму раяць падаваць заяўку на навучанне:**

1. Тым, каму цікава, чым жыла, жыве і будзе жыць краіна.
2. Маладым людзям, якіх турбуе будучыня Беларусі.
3. Моладзі, што цікавіцца палітыкай, але яшчэ не знайшла сябе.
4. Людзям, якія шукаюць аднадумцаў.
5. Усім, хто неабыякавы, мае клопат пра родную краіну і не толькі на словах.

Для будучых студэнтаў да 15 чэрвеня трэба запоўніць анкету http://bit.ly/szkolarzs2019, напісаць на edu.mff@gmail.com ці звязацца з дырэктарам школы Кірылам Стаселькам (+375447140209).



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар Колб Аксана Мікалаеўна
Намеснік рэдактара Пульша Сяргей Пятровіч
Стыль-рэдактар Пяроўская Святлана Віктараўна

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

НАДРУКАВАНА ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №873

Падпісана да друку 07.06.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастакія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.